Мінск пазбавіўся права на правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі.

*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою.*
***Якуб КОЛАС***

**№ 4 (4564)**

19 студзеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!**

# В XXI столетии в центре Европы – и концлагерь?


Коллаж Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

В конце минувшей недели инициатива BYPOL опубликовала новый громкий слив. На протяжении многих минут звучит голос, как будто принадлежащий заместителю МВД, полковнику милиции Николаю Карпенкову, который раньше занимал должность начальника ГУБОПиК. Помните, этот милицейский начальник разбил дубинкой дверь кофейни в Минске, гоняясь за мирно протестующими людьми.

Но пусть эксперты занимаются точным установлением того, чей монолог лег в основу аудиозаписи. Читателям «Народной Воли» прежде всего важно знать, о чем шел разговор. Вот слышен голос человека: он рассказывает о новых видах специальных средств, поступивших на вооружение и имеющих большую травмирующую силу, которые должны применяться в отношении граждан. А также о способах их применения для наступления летального исхода. При этом выступающий, судя по всему, перед личным составом подчиненных, подчеркивает: Александр Лукашенко гарантирует безнаказанность такого рода их действий по применению данного оружия и специальных средств.

Кроме того, сообщается о планах по созданию спецлагеря для бессрочного отселения лиц, повторно принявших участие в акциях протеста. В МВД создана единая информационная система «БЕСпорядки», куда помещается информация о всех, кого силовики задерживают за участие в несанкционированных массовых мероприятиях.

Кроме того, из аудиозаписи становится окончательно ясно, как умер Александр Тарайковский: «*Понятно, от чего умер этот пьяница и дебил. Он умер, конечно, от резиновой пули, которая прилетела ему в грудь. Он стоял там в майке. Я думаю, что с обратной стороны майки она не застрянет*».

Выступающий рассказывает своим слушателям о том, что «*российское оружие, травматическое оружие, с близкого расстояния от боевого ничем не отличается. Бедному русскому человеку от чечена или от какого-нибудь дагестанца защититься нужно, понятно, да? Тем более страна с холодным климатом, поэтому толку там… там больше, чем половина, в тулупах ходит.*

*Поэтому мы обратились. Сказали, что нам не хватает, получается, травматического оружия. Что нам в основном, получается, приходится задачи решать резиновой палкой или кулаком. Где-то за этим, в исключении, получается, применять светозвуковые гранаты, где-то идти на определенные хитрости по разблокированию дорог. Но необходимо, конечно, нам травматическое оружие. И вот, получается, по указанию главы государства приобретено, получается, 100 пистолетов: 30 пошли в СОБР, 20 пошли в «Алмаз», а 50 пистолетов передали нам*».

А вот еще несколько циничных цитат (даем также дословно):

«*Поэтому, как президент говорил, если прет на тебя – применяй оружие, получается, вот нелетальное. В упор: по ногам, в живот, по яйцам. Чтобы понял, что он сотворил и что наделал, когда придет в сознание. Ну, нанесите ему что-то в таком, ну, виде: либо покалечить, либо изувечить, либо убить. Применять оружие ему прямо в лоб, прямо в лоб, прямо в лицо, прямо туда, после чего он уже никогда, получается, не вернется в то состояние, в котором он находился.*

*Ну, откачают так откачают. Не будет у него половины головного мозга, ну, туда ему и дорога. Потому что, в основном, все те, кто выходит на улицы, на данный момент поучаствовать в рельсовой войне, получается, те, которые блокируют дороги, нападают на милиционеров, бросают «коктейли Молотова», – те же террористы. Это лишние люди в нашей стране*».

«*Президент сказал еще, что до декабря месяца со всеми вот этими моментами, которые на улице есть, надо разобраться и разобраться жестко <...> [Президент говорил] Я знаю, что, если я сейчас, получается, поддамся на эти уговоры и уйду, им всем конец, их всех просто уничтожат, уничтожат и многих здесь в зале присутствующих. Будут делать люстрации, будут делать издевательства. Все, что написано: что придем, все поломаем – это все осуществится. Что ГУБОП расформируют, внутренние войска расформируют, ОМОН поставят на колени, унизят и так далее, и многих других, кого только они посчитают*».

«*Как говорил дедушка Ленин: в стране только одна сторона имеет право применять оружие – это государство. Все остальные, кто за оружие возьмется, – это бандиты. Бандиты и террористы, и отношение к ним должно быть таким*».

«*Создается база данных. В этой базе данных, кто попал второй раз, тот должен там и остаться. Сказано разработать, сделать лагерь, ну не для военнопленных, не для интернированных даже, а лагерь для особо острокопытных, такой для отселения. И поставить колючую проволоку, получается, по периметру. Два помещения сделать: топка – этаж, кормили – этаж, чтобы работали. Но там их держать, пока всё не успокоится*».

«*Главой государства мы прикрыты со всех сторон в плане применения оружия. Безумно, говорит, сразу, говорит, конечно, из оружия лупить не надо. Надо, говорит, дать человеку шанс в этой ситуации, чтобы он осознал. Но, а если нет, тогда, получается, уже рубануть так рубануть! Потому что время такое, не цветная революция – гибридная война*».

Что и говорить! Трудно даже представить, что может произойти в многострадальной Беларуси! Неужели и на самом деле имеются «*лишние люди в нашей стране*»? Что значит «*создать лагерь для особо острокопытных, такой для отселения*»? В XXI столетии, в центре Европы – концлагерь? От одних этих слов мороз пронимает до костей.

Сети буквально кишат от комментариев очередного страшного слива. Не хотелось бы только верить, что хоть десятая доля того, что произнесено устами человека, чей голос похож на голос небезызвестного Карпенкова, может сбыться.

### *ОТ РЕДАКЦИИ*

После того как инициатива BYPOL обнародовала эту жуткую аудиозапись, последовала реакция пресс-секретаря МВД госпожи Чемодановой: мол, это фейк, и комментировать не будем. Но, не удовлетворившись таким куцым ответом, «Народная Воля» направила ей следующий запрос:

***ПРЕСС-СЕКРЕТАРЮ МВД РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ О.ЧЕМОДАНОВОЙ***

Когда стало известно о появлении аудиозаписи с голосом человека, похожим на голос заместителя министра внутренних дел Н.Карпенкова, Вы сказали: «Мы не комментировали и не будем комментировать фейки. Задачами МВД является охрана общественного порядка, обеспечение безопасности и борьба с преступностью». Что касается функциональных обязанностей МВД, то здесь с Вами нельзя не согласиться. А вот утверждение, что аудиозапись является фейком, требует пояснений.

Скажите, пожалуйста, делалась ли соответствующая экспертиза данной аудиозаписи? Если делалась, то на каком уровне и кто ее конкретные исполнители? Есть основания полагать, что человек, чей голос слышен, выступал перед служащими спецподразделения. В таком случае опрашивались ли те, кто при этом присутствовал? Если да, то нельзя ли назвать их фамилии и что они сказали? Словом, чтобы утверждать, что это фейк, нужно тщательное расследование…

В любом случае право редакции попросить Вас вернуться к теме и дать более исчерпывающие пояснения. Ждем.

**Редакция газеты «Народная Воля».**

О том, какой ответ поступит от О.Чемодановой, читатели «Народной Воли» узнают в следующем номере газеты.

**ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ**

## Нам неабходна Ваша дапамога

Шаноўныя нашы чытачы і валанцёры!

На жаль, блакада «Народнай Волі» дасягнула неверагодных маштабаў. Як Вы ведаеце, яшчэ ў жніўні мінулага года ўлады забаранілі тыражаванне газеты ў выдавецтве «Беларускі Дом друку», а таксама распаўсюджванне яе праз шапікі і паштовыя аддзяленні. Ужо другі месяц мы не можам друкавацца нават у Маскве: тамтэйшыя паліграфісты скасавалі з намі дамову пад ціскам крамлёўскіх імперцаў.

І ўсё ж мы, народавольцы, не губляем спадзяванняў на тое, што блакада ў хуткім часе будзе знята і Вы, шаноўныя чытачы, зможаце мець «Народную Волю» не толькі ў электронным варыянце, але і ў ранейшым – папяровым. Аднак зараз нам крайне неабходна ваша дапамога. Нагадваем: пералічыць пэўныя сродкі можна некалькімі спосабамі (рэквізіты падаём у рускай транскрыпцыі).

**1. Через ЕРИП:**
**СМИ, Н (просто буква), Народная воля, Добровольные взносы.**

**2.Через БАНК:**
**ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**Код PJCBBY2X, ЦБУ 113**
**«Приорбанк» ОАО, г.Минск**
**УНП 100961759, ОКПО 37381505**

Падпісацца на газету «Народная Воля» можна на сайце **belpressa.by**. Пры афармленні падпіскі на друкаванае выданне будзем дасылаць Вам у канверце раздрукаваны на прынтары варыянт газеты. На сайце таксама можна падпісацца на PDF-версію.

***Рэдакцыя газеты «Народная Воля».***

**ХТО ЁСЦЬ ХТО**

## Кандыдаты Байдэна на ключавыя пасады ў ЗША

*Як вядома, інаўгурацыя Джо Байдэна на пасаду прэзідэнта ЗША адбудзецца заўтра, 20 студзеня. Прадстаўляем некаторых асоб, якіх Байдэн абраў на кіруючыя пасады ў сваёй адміністрацыі.*



### Дзяржаўны сакратар – Энтані Блінкен



58-гадовы Энтані Блінкен ужо працаваў намеснікам дзяржсакратара ў адміністрацыі прэзідэнта Барака Абамы. Ён дакладна разумее, што значыць быць самым высокім амерыканскім дыпламатам.

Блінкен стаў даверанай асобай нова-абранага прэзідэнта пасля таго, як яны з Байдэнам працавалі ў Камітэце міжнародных сувязяў Сената ў 2002–2008 гадах. Пазней ён быў дарадцам Байдэна па нацыянальнай бяспецы, калі той займаў пасаду віцэ-прэзідэнта ў часы Абамы.

Як і Байдэн, Блінкен часта падкрэсліваў важнасць міжнародных саюзаў для Злучаных Штатаў. Чакаецца, што ён прыкладзе намаганні для ўрэгулявання шматлікіх дыпламатычных спрэчак з саюзнікамі ЗША, якія ўзніклі пры адміністрацыі Трампа.

Большую частку сваёй маладосці Блінкен правёў у Парыжы, таму свабодна валодае французскай мовай. У яго шырокі светапогляд, які, верагодна, моцна адрозніваецца ад схільнасці папярэдняй адміністрацыі да палітыкі «Амерыка перадусім».

Рашучы прыхільнік NATO і вайскова-палітычнага саюза Паўночнай Амерыкі і Еўропы, Блінкен добра ведае постсавецкія геапалітычныя рэаліі. Чакаецца, што ён зойме больш жорсткую пазіцыю адносна агрэсіўнай палітыкі Крамля.

### Дырэктар ЦРУ – Уільям Бёрнс



Калі кандыдат Байдэна на пасаду кіраўніка знешняй разведкі ЗША будзе ўхвалены Сенатам, гэта будзе парушэннем традыцыі. Уільям Бёрнс будзе першым кіраўніком Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША з досведам дыпламата, а не кагосьці з разведчыцкай супольнасці.

Яго доўгая кар ера ў Дзяржаўным дэпартаменце ЗША з 1982-га па 2014 год азначае, што ён будзе ў курсе і гатовы заняцца двума прыярытэтнымі кірункамі новай адміністрацыі: Расіяй і Іранам.

Байдэн патлумачыў свой выбар новага дырэктара ЦРУ тым, што Бёрнс падзяляў яго «*глыбокае перакананне ў тым, што разведка павінна быць апалітычнай*», дадаўшы: «*Ён прынясе неабходныя веды, меркаванні і перспектывы для прадухілення пагроз і супрацьдзеяння ім*».

### Міністр абароны – Лойд Осцін



Чатырохзоркавы генерал у адстаўцы, які праслужыў у арміі ЗША больш за 40 гадоў, Лойд Осцін прынясе багаты досвед у якасці міністра абароны. Осцін кіраваў скарачэннем амерыканскага кантынгенту ў Іраку і нарошчваннем яго ў Афганістане, а таксама дамагаўся адказу ЗША на пагрозу з боку экстрэмісцкай групоўкі «Ісламская дзяржава».

Паведамляецца, што Байдэн быў уражаны працай Осціна на пасадзе кіраўніка Цэнтральнага камандавання ЗША, якое адказвала за правядзенне вайсковых апераций пры адміністрацыі Абамы. Што тычыцца абрання Осціна, Байдэн заявіў, што атрымае «*не толькі навыкі і стратэгію дасведчанага салдата*», але таксама давераць амерыканскія ўзброеныя сілы таму, хто таксама служыў дзяржаўным дзеячам, прадстаўляў «*краіну з гонарам і годнасцю, і заўсёды перш за ўсё абараняў свой народ*».

Калі Сенат ухваліць яго кандыдатуру, 67-гадовы Осцін завершыць сваю беспрэцэдэнтную кар еру як першы афраамерыканец на пасадзе міністра абароны. Але ёсць адзіная магчымая перашкода: для прызначэння Осціна патрабуецца ўхваленне Сената, і не вядома, ці зробяць сенатары для яго выключэнне, бо міністр абароны павінен быць цывільнай асобай, якая актыўна не служыла ў войску як мінімум сем апошніх гадоў. Осцін падаў у адстаўку ў 2016 годзе. Гэткае выключэнне было зроблена толькі двойчы: для Джорджа Маршала ў 1950 годзе і Джэймса Мэціса ў 2017-м падчас прэзідэнцтва Трампа.

### Міністр юстыцыі – Мэрык Гарланд



Калі б усё ішло паводле плана, 68-гадовы Мэрык Гарланд не змог бы стаць галоўным супрацоўнікам праваахоўных органаў і юрысконсультам новаабранага прэзідэнта ЗША. Ён быў першым кандыдатам былога прэзідэнта ЗША Барака Абамы на вызваленае месца ў Вярхоўным судзе ў 2016 годзе. Але Гарланд не атрымаў ухвалення рэспубліканцаў у Сенаце, нягледзячы на сваю доўгую працу ў Федэральным апеляцыйным судзе. Ён таксама мае вялікі досвед працы ў Міністэрстве юстыцыі ЗША, у тым ліку ў якасці федэральнага пракурора.

Калі кандыдатуру Гарланда ўхваляць, ён возьме на сябе кіраванне Міністэрствам юстыцыі пасля бурнага перыяду, калі гэтую пасаду займаў Уільям Бар, які часта публічна здзекаваўся з уласных супрацоўнікаў. Чакаецца, што добрая рэпутацыя Гарланда ў Міністэрстве юстыцыі павысіць маральны дух агенцтва. Падчас сваёй прэзідэнцкай кампаніі Байдэн паабяцаў спыніць расавы канфлікт у сістэме правасуддзя шляхам правядзення шэрагу рэформаў, такіх як адмена смяротнага пакарання на федэральным узроўні і адказнасць паліцэйскіх ведамстваў за любыя сістэматычныя парушэнні.

**РАЗВІТАННЕ**

## Бывайце, Леанід Міхайлавіч!..



Па начах ад марозу патрэскваюць дрэвы, зіма рашуча пайшла ў наступленне, не зважаючы на паварот сонца на лета. Здавалася б, пры дваццаці градусах ніжэй за нуль і клятаму каранавірусу разгону не будзе. Але ж любая пошасць жывучая, і эпідэмія працягвае сваю страшную касавіцу і ў маразы. 17 студзеня ў шпіталі памёр вядомы гісторык, вялікі патрыёт Беларусі **Леанід Міхайлавіч Лыч**.

З 1962 года па снежань 2020-га (ажно 58 гадоў!) ён адпрацаваў у акадэмічным Інстытуце гісторыі, мала хто можа пахваліцца такім працоўным стажам у адной установе. Але Леанід Міхайлавіч захоўваў вернасць не так установе, дзе нярэдка даводзілася займацца казёншчынай, як уласна айчыннай гісторыі. І калі параўнаць колькасна яго афіцыйныя працы, выдадзеныя ў дзяржвыдавецтвах, і напісаныя па закліку душы, то апошніх – разоў у дваццаць болей. Іх доктар навук і прафесар выдаваў за ўласныя грошы невялічкімі накладамі, але менавіта яны, як мне бачыцца, і застануцца помнікам навукоўцу і грамадзяніну Леаніду Лычу.

Акадэмічныя гісторыкі ў нас, як правіла, зашпілены на ўсе гузікі. Асцерагаюцца выступаць публічна на грамадска-палітычныя тэмы. Так было пры савецкай уладзе, так пераважна і цяпер (пэўнае вальнадумства назіралася хіба на пачатку 1990-х ды ў жніўні-верасні мінулага года). Леанід Лыч выказваўся не баяўся, актыўна публікаваўся ў незалежных выданнях, найперш у “Народнай Волі”. І заўжды гаварыў пра свой пажыццёвы клопат і боль – пра сфальшаваную нацыянальную гісторыю, пра родную беларускую мову, якая і ў савецкай імперыі, і ў незалежнай Беларусі была і застаецца бяспраўнай папялушкай.

Народжаны ў вёсцы Магільнае на Уздзеншчыне, гісторык не мог прыняць новай назвы паселішча, накінутай бальшавікамі, – Нёман. Вёска Нёман на рацэ Нёман – бязглуздзіца, вядома ж. Ды неяк з цягам часу ўсе звыклі і змірыліся. Не змірыўся толькі Леанід Лыч – некалькі гадоў змагаўся за вяртанне гістарычнай назвы. І перамог – у 1991 годзе Вярхоўны Савет прыняў адмысловую пастанову. А Леанід Міхайлавіч нават узначаліў дзяржаўную тапанімічную камісію. І калі б яна пад яго кіраўніцтвам папрацавала гадоў дзесяць, я перакананы: на карце Беларусі не засталося б ні Акцябрскіх, ні Кіраўскаў, ні Светлагорскаў...

І на дзясятым дзясятку Леанід Лыч не сядзеў склаўшы рукі. Нярэдка я сустракаў яго ў Нацыянальнай бібліятэцы, дзе сівая галава прафесара схілялася над пажаўцелымі газетнымі падшыўкамі. Прычым гісторык часам кардынальна – ад кнігі да кнігі – мяняў тэмы сваіх даследаванняў. Скажам, пасля кнігі пра жыццё беларусаў пад нямецкай акупацыяй магла выйсці манаграфія пра беларускіх татараў, пасля кнігі па тапаніміцы – кніга з амбіцыйнай назвай “Беларуская нацыянальная ідэя”…

Леанід Лыч жыў па суседстве з рэдакцыяй часопіса “Роднае слова”, дзе я доўгі час працаваў. Тады мы сустракаліся часцей. Бываў я і ў кватэры Леаніда Міхайлавіча, дзе ён ахвотней расказваў і пра асабістае – пра сваю службу ва ўнутраных войсках, пра ўсіх сваіх жонак, пра сына Шаміля (адна з жонак была татаркай)…

У адным мы з ім не прыйшлі да згоды – мой суразмоўца даводзіў, што беларусы мусяць прызнаць сябе нацыянальнай меншасцю і атрымаць адпаведны, прызнаны міжнароднай супольнасцю, статус. Маўляў, тады мы будзем мець больш правоў і магчымасцяў для нацыянальнага адраджэння. А мне і раней здавалася, і цяпер здаецца, што нас усё ж у краіне пераважная большасць.

Аднойчы Леанід Міхайлавіч падзяліўся са мной адной сваёй марай (неажыццявімай, як сам прызнаваў) – пашыхтаваць усіх сяброў і знаёмых у адну доўгую шарэнгу, прайсці паўз яе, углядаючыся ў твары, і кожнаму падзячна паціснуць руку – за зробленае ім для Беларусі. Пачуўшы такое, я, помніцца, пажартаваў: “А калі вам за тое самае тысячы людзей руку паціснуць, то і рука анямее!” “А і праўда анямее”, – засмяяўся гісторык.

Людская ўдзячнасць вельмі часта позніцца. Але яна не абмежавана ў часе. Да Леаніда Міхайлавіча Лыча наша беларуская некрыклівая ўдзячнасць яшчэ неаднойчы дойдзе. У тое самае Магільнае, якому ён вярнуў імя і куды адправіўся на вечны спачынак.

**Міхась СКОБЛА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 СТУДЗЕНЯ 2021 г.

РЭГІЁН

# Безнадзёга

*На гродзенскім рынку "Цэнтральны" ў больш як 10-градусны мароз гандляры працуюць на вуліцы і плацяць за гэта падаткі, арэнду і іншыя адлічэнні ў дзяржаўны бюджэт. Дзяржава ж не стварае людзям належных ўмоў для працы, а толькі ўзнімае стаўкі па выплатах. Ніякіх спадзяванняў на лепшае ў мясцовых гандляроў няма.*

### 94 рублі за 4 квадратныя метры

Здавалася б, са з'яўленнем рознага кшталту гіпермаркетаў і гандлёвых цэнтраў павінны былі змяніцца і ўмовы працы гандляроў. Цывілізаваны гандаль, які прыйшоў у наша жыццё, паказаў, як гэта павінна выглядаць. Яшчэ можна зразумець, калі ў цёплае надвор'е прадаўцы стаяць за гандлёвымі прылаўкамі пад адкрытым небам, прадаючы кашулі, нагавіцы, шкарпэткі. Але калі на вуліцы пад мінус 20… Больш за тое, на гродзенскім рынку "Цэнтральны" частка людзей гандлюе проста з пасланай на асфальце цыраты, на якой ляжыць тавар.

28-гадовы Дзмітрый Пятровіч прадае мужчынскае адзенне: курткі, швэдары і іншае. Ён арандуе невялічкі бляшаны бокс на 4 квадртаныя метры і плаціць за гэта 94 рублі ў месяц. Атрымліваецца, па 10 долараў за метр. І гэта без вады, святла, ацяплення. З 9.00 да 14.00 Дзмітрый знаходзіцца на вуліцы і дахаты прыходзіць добра здубянелы.

*– У гэтым годзе зімовыя месяцы наогул цяжкія, і не столькі праз надвор'е,* – кажа мужчына. – *Няма пакупнікоў, здараецца, у дзень прадаю адну-дзве рэчы.*

Прадпрымальнік падлічыў: кожны месяц ягоныя абавязковыя расходы на падаткі, арэнду і іншыя выплаты складаюць прыкладна 400 рублёў. А ў зімовыя месяцы не заўсёды ўдаецца зарабіць нават такую суму.

Гэта якраз і ёсць прычына таго, што многія боксы побач зачынены.

*– Тут побач у некаторых боксах прадавалі абутак і адзенне, але былі вымушаны зачыніцца. У людзей няма грошай, а значыць, ніхто нічога не купляе.*

Пенсіянер Яўген Іванавіч, які атрымлівае ўсяго 350 рублёў пенсіі, спрабаваў зарабіць на жыццё прадпрымальніцкай дзейнасцю, але зараз згортвае яе і да канца месяца здасць арэндадаўцам свой бокс.



*– Няма сэнсу ў такой працы,* – сумна кажа мужчына. – *За месяц я мог нагандляваць у лепшым выпадку на 400–450 рублёў. Пасля выплаты падаткаў і арэнды у мяне застаецца дробязь – 50–100 рублёў. Дзеля такіх грошай стаяць днямі на марозе ў маім узросце не выпадае. Давядзецца жыць на пенсію.*

### Па нулях

На ніжняй пляцоўцы рынку месяцца таксама гандлёвыя рады з адзеннем, праўда, тут ужо не боксы, а звычайныя металічныя прылаўкі пад бляшаным дахам. Жанчыны-прадаўшчыцы стаяць у пухавіках і шубах. Скупіліся групкамі, размаўляюць, пакупнікоў амаль няма.

Цікаўлюся, як гандаль.

*– Па нулях,* – адказвае адна з іх і дадае: – *Учора прадала адну рэч, пазаўчора – дзве. А тавар вунь ляжыць: трэба прадаць – пакупнікоў няма.*

Што тычыцца надвор'я, жанчына кажа, што такім чынам стаіць тут ужо 26 гадоў – і ў мароз, і ў спёку.

Іншая спадарыня, якая назвалася Валянцінай Пятроўнай, здымае пальчаткі і паказвае рукі:

*– Бачыце, як у мне пальцы пакруціла на такім марозе! Здароўя няма, а вымушана тут стаяць, бо і пенсіі пакуль няма, і працаваць нікуды не ўладкуешся.*

Яе каляжанка паказвае на пустыя месцы ў гандлёвых радах і распавядае: там стаяла жанчына, якая закрыла ІП, а тут – дзеці забралі маці ў Амерыку, тры сям'і з'ехалі на працу ў Еўропу…

*– Ды я вельмі хацела б спакойна жыць на пенсіі,* – уздыхае жанчына. *– Але як пражыць, калі яна ўсяго 326 рублёў?*

З яе слоў, зімовыя месяцы заўсёды былі цяжкія, але бывалі сезоны, калі тавар усё ж такі прадаваўся і ўдавалася нешта зарабіць.

*– За 30 гадоў, што мы плацім падаткі і арэнду, ніхто на гэтым рынку для нас нічога не зрабіў, каб зімой было цёпла, а летам халаднавата. Ну вось куды ўсе гэтыя нашы выплаты за столькі гадоў падзяваліся?!*

### «Цяжка гаварыць – плакаць хочацца»

Размаўляю з іншымі жанчынамі. Жанна Уладзіміраўна прадае мужчынскія кашулі, Ала Пятроўна – кухонны і сталовы посуд. Абедзве кажуць, што ўжо некалькі месяцаў знаходзяцца ў дэпрэсіўным стане.

*– Ведаеце, я цяпер вельмі часта плачу, калі вяртаюся дадому з пустымі кішэнямі,* – прызнаецца Жанна Уладзіміраўна. – *Дзецям столькі ўсяго трэба купіць, а няма за што.*

Ала Пятроўна дадае, што і перспектывы ў іх ніякай няма, нават не праглядваецца.

*– З гэтай уладай у ва ўсіх няма ніякай перспектывы,* – сур'ёзна кажа жанчына. – *І на заробкі нікуды не паедзеш, бо ўзрост ужо не той, хутка пенсія. Так што нідзе мы не патрэбны. Адным словам, безнадзёга.*

Паводле яе слоў, на рынку стаяць пераважна пенсіянеры, а дзеці, як правіла, паз'язджалі на працу за мяжу. Дачка Алы Пятроўны жыве ў Таліне. Да каранавіруса жанчына часта туды ездзіла, а цяпер і з самымі блізкімі размаўляе толькі праз інтэрнэт.

*– Унучка, калі ад'язджала, абяцала, што пасля школы прыедзе ў Беларусь вучыцца. Потым скончыла школу і сказала: не, больш сюды не паеду. Паступіла і вучыцца ў Эстоніі бясплатна. Зрэшты, там усе вучацца бясплатна.*

### «У нас ёсць адна перавага...»

Сяргей Віктаравіч прадае байкі, швэдары, майкі. Паводле яго слоў, нічога на гэтым рынку не адбываецца. Гандляры толькі сыходзяць, кідаюць свой бізнес, а новыя не з'яўляюцца. І зусім натуральна, што зімой няма пакупнікоў, паколькі няма ўмоў ні для іх, ні для гандляроў.

*– Гэты рынак існуе толькі таму, што ён самы танны,* – кажа мужчына. – *Таму, зразумела, сюды прыходзяць толькі самыя бедныя, бо ў многіх людзей кожны рубель цяпер на ўліку.*

Але, прызнаецца мой суразмоўца, такая праца яго задавальняе па той прычыне, што тут у яго ў разы больш свабоды, чым у чалавека, які ходзіць працаваць на завод:

*– Я сам сабе гаспадар і нікому не падначалены. І хоць дэбет з крэдытам не заўсёды магу звесці, але для мяне важней за ўсё мець свабоду.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**Здымак: на гродзенскім рынку "Цэнтральны".**

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

## Александр ПЛАСКОВИЦКИЙ,

бывший руководитель Главного государственного правового управления Администрации президента Республики Беларусь:



– Их (*россиян.* – **Ред.**) интересы в Беларуси на 99,9% корыстны. Нужна ли нам в Беларуси какая-то пророссийская политическая партия? Она им не нужна. Каждый, кто изучал историю, со времен Рима знает, что олигархи на всех подконтрольных им территориях предпочитали иметь «царя Ирода», а не коллегиальный орган. Ведь одну марионетку проще содержать и проще ею управлять. Поэтому и Россия в Беларуси отдает предпочтение диктатору, а не какой-то пророссийской партии. Поэтому не нужна Кремлю никакая наша новая Конституция.

СКАЗАНА!

## Павел ЛАТУШКА,

член прэзідыума Каардынацыйнага савета:



– Паводле Закона "Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах" і Закона "Аб статусе дэпутата", дэпутаты не маюць права выбіраць дэлегатаў якіх-небудзь сходаў. Паводле Крымінальнага кодэкса, тут і перавышэнне службовых паўнамоцтваў, і злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, у тым ліку дзеля кар'ерных мэтаў, і парушэнне раўнапраўя грамадзян – адпаведна 426-ы, 424-ы і 190-ы артыкулы.

СІТУАЦЫЯ

## Федэрацыя футбола атрымала аплявуху

*Беларускія спартыўныя чыноўнікі хацелі пакараць ігрока, але не атрымалася.*

Яшчэ ў жніўні футбаліст ЦСКА і зборнай Беларусі **Ілля Шкурын** заявіў, што адмаўляецца гуляць за зборную пры рэжыме Лукашэнкі.

Пазней Беларуская федэрацыя футбола накіравала ў дысцыплінарны камітэт ФІФА запыт, у якім прасіла ўжыць санкцыі да Шкурына за няяўку ў маладзёжную зборную Беларусі на матчы кваліфікацыйнага раўнда чэмпіянату Еўропы супраць Нідэрландаў і Партугаліі ў верасні 2020 года.

У снежні футбаліст падпісаў ліст за сумленныя выбары і супраць гвалту, пасля чаго быў выключаны са зборнай Беларусі і пазбаўлены льготы па адтэрміноўцы вайсковай службы.

"*Ілля адмовіўся прыязджаць у зборную па палітычных матывах, гэта яго права, як і кожнага ігрока*, – заяўляў раней старшыня Федэрацыі футбола **Уладзімір Базанаў.** – *Але ён няправільна зрабіў, таму цяпер мы звярнуліся ў ФІФА, зараз будуць разбірацца. Ён не меў права гэтага рабіць, ён павінен быў прыехаць сюды.*

Любы гулец, які выклікаецца ў зборную, абавязаны прыехаць у зборную. Траўміраваны ён ці яшчэ нешта, але ўжо тут, на месцы, павінен сказаць аб сваіх пазіцыях або пра сваю хваробу. А Ілля Шкурын не прыехаў".

Зараз стала вядома, што ФІФА адхіліла ўсе прэтэнзіі Беларускай федэрацыі футбола да Іллі Шкурына. Такім чынам, нашы спартыўныя чыноўнікі атрымалі чарговую аплявуху.

**Віктар ШПАК.**

ЗАКУЛІССЕ

Аляксандр ВАЙТОВІЧ:

# «Цікава, хоць адзін голас раздасца пра тое, што настаў час спыніць гвалт і зверствы?»

*Не так даўно пры Савеце Рэспублікі быў створаны так званы Савет старэйшын. "Народная Воля" пацікавілася, ці запрасілі туды акадэміка, былога прэзідэнта Акадэміі навук, экс-старшыню Савета Рэспублікі Аляксандра Вайтовіча? Можа, запрашалі, ды ён катэгарычна адмовіўся і не захацеў садзіцца за адзін стол з тымі, хто падтрымлівае Аляксандра Лукашэнку?*

АФІЦЫЙНА

## Для чаго створаны Савет старэйшын?

Паводле слоў старшыні Савета Рэспублікі Наталлі Качанавай, "*савет створаны, каб прымяняць і ўлічваць практычны вопыт членаў Савета Рэспублікі папярэдніх скліканняў у галіне заканадаўчага забеспячэння, а таксама пры фарміраванні і рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі і іншых праблемах*".

Асноўнымі задачамі органа, як кажа Качанава, стануць абмеркаванне і выпрацоўка прапаноў па найбольш важных пытаннях розных сфер жыццядзейнасці краіны, аналіз і ацэнка новых заканадаўчых ініцыятыў і законапраектаў, а таксама праграмных дакументаў. Акрамя таго, савет можа ўносіць рэкамендацыі і прапановы па ўдасканаленні работы верхняй палаты парламента і аказваць кансультацыйную дапамогу.

Узначаліў Савет старэйшын Барыс Батура, які кіраваў Саветам Рэспублікі з 31 кастрычніка па 30 мая 2010 года.



Між іншым, Аляксандр Вайтовіч быў старшынёй Савета Рэспублікі з 19 снежня 2000-га па 28 ліпеня 2003 года. Больш за ўсіх у гэтым крэсле пратрымаліся былы прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі (з 28 чэрвеня 2003-га па 31 кастрычніка 2008 года) і акадэмік Анатоль Рубінаў (з 24 мая 2010-га па 16 студзеня 2015 года). Але іх таксама няма ў складзе Савета старэйшын.

– Я пра Савет старэйшын даведаўся са сродкаў масавай іфармацыі, – *сказаў "Народнай Волі"* ***Аляксандр Вайтовіч***. – Ніхто са мной на гэты конт не размаўляў. І Батура мне не званіў.

**– Але ж вы, здаецца, як ніхто іншы падыходзіце ў гэты савет.**

– Калі гэта сапраўды Савет старэйшын, то так, я адзін са старэйшых старшынь Савета Рэспублікі, якія засталіся жывыя.

**– Прычым вы не радыкал, з якім цяжка дамовіцца, а акадэмік, чалавек выхаваны, з добрымі манерамі.**

– Марына, я не магу адказаць на пытанне, чаму мяне не запрасілі, не я прыдумаў гэтую арганізацыю.

**– Якія пачуцці ў вас былі, калі прачыталі навіну пра пачатак дзейнасці савета? Здзівіліся ці раззлаваліся?**

– Адразу ў галаве прамільгнула думка: паводле якога прынцыпу фарміравалі гэты Савет старэйшын? Бо нейкія ж прынцыпы стварэння павінны быць!

Усіх старшынь Савета Рэспублікі, якія жывыя, запрасілі ці не? Альбо толькі мяне абмінулі ўвагай? Яшчэ каго запрашалі? Бо ў мяне адчуванне, што гэты савет стварылі па прынцыпе адданасці дзеючай уладзе. Мяркуючы па ўсім, гэты Савет старэйшын будзе збірацца, каб хваліць і падтрымліваць тое, што робіцца ў краіне. А тое, што людзей калечаць і забіваюць… Мне самому цікава: хоць адзін голас з гэтага савета раздасца пра тое, што настаў час спыніць гвалт і зверствы?

На маю думку, Савет старэйшын – аналаг быццам бы народнага сходу вертыкальшчыкаў, так званага Усебеларускага сходу, які збіраюцца правесці ў лютым. На маю думку, будучае краіны трэба абмяркоўваць з людзьмі розных поглядаў і разглядаць розныя прапановы. А ў нас абмеркаванне на такіх саветах старэйшын і так званых усебеларускіх сходах зводзіцца толькі да таго, як захаваць існуючую ўладу. А пра будучыню краіны па вялікім рахунку, відаць, ніхто не думае.

– У Савет старэйшын запрасілі Антаніну Мораву, якая некалі была міністрам працы, а затым дырэктарам Інстытута дзяржслужбы Акадэміі кіравання. Яна доўгі час пасля сыходу з усіх пасад увогуле нідзе голаса не падавала, а цяпер, бачыце, – запатрабаваная стала! Банкір Надзея Ермакова, былы амбасадар Беларусі ў Японіі Сяргей Рахманаў, мяркуючы па фотаздымках, таксама у гэтым Савеце.

– Морава пры мне не была ў Савеце Рэспублікі, але, калі не блытаю, здаецца, узначальвала адну з камісій. А Надзея Ермакова была проста шараговым членам Савета Рэспублікі. Рахманаў кіраваў камісіяй па міжнародных справах. Ну вось нават па гэтым кароткім спісе бачна, па якім прынцыпе адбор праводзілі.

**– На вашу думку, чаму Барыс Батура пагадзіўся ўзначаліць гэты савет? Ён што, не бачыць, што адбываецца ў краіне?**

– Ён складнік гэтай сістэмы. І адданы ёй. Такія людзі таксама ёсць.

Не ведаю, ці была ў Батуры нейкая ўлада, каб вызначыць склад савета, ці да яго проста прыйшлі, паперы паклалі – і ўсё на гэтым. На жаль, мы не ведаем, як усё адбывалася і хто быў ініцыятарам стварэння савета. Але сапраўды ёсць чаму здзіўляцца. Калі Морава там, Рахманаў там, то, па самай простай логіцы, я таксама павінен быць там! Значыць, галоўнае для гэтага савета – не абмеркаванне існуючых праблем, глабальнага крызісу, у якім краіна знаходзіцца, а проста стварэнне імітацыі дзейнасці… Што будзе рабіць той савет, калі там няма розных поглядаў?

**– Паведамлялася, што савет будзе дзейнічаць на пастаяннай аснове. Як думаеце, заробкі будуць плаціць гэтым мудрацам альбо не?**

– Сапраўды, хацелася б ведаць… Але не думаю, што справа дойдзе да заробку. Хаця нехта ж павінен забяспечваць ягоную дзейнасць. Трэба выдзяліць нейкія кабінеты, тэхніку – сёння без камп'ютараў як без рук, павінны быць людзі, якія рыхтуюць дакументы для разгляду, справаздачы, даклады.

Трэба, каб ад працы любой структуры была максімальная карысць. Таму варта сур'ёзна абмяркоўваць сітуацыю, улічваць усе меркаванні. На жаль, гэтага пакуль не бачна…

ДРУГІ БОК

### Барыс Батура пакуль не гатовы адказваць на пытанні

"Народная Воля" хацела задаць некалькі пытанняў старшыні Савета старэйшын. Але Барыс Батура шчыра сказаў, што пакуль не гатовы на іх адказваць, і прапанаваў стэлефанавацца прыблізна праз тыдзень. Заўважыў, што некаторыя члены савета хварэюць.

"*Можна будзе бліжэй да канца тыдня даведацца, ці сфарміраваны канчаткова Савет старэйшын*, – адказаў Барыс Васільевіч. – *Пакуль мы поўным складам яшчэ не збіраліся. Ці сам я ўзгадняў спіс членаў савета? Гэта доўгая працэдура, але цалкам зразумелая. Аднак давайце бліжэй да канца тыдня паразмаўляем…*"

РЭЗАНАНС

### А ці законна?

Каардынацыйны савет назваў незаконным стварэнне Савета старэйшын пры Савеце Рэспублікі. І запатрабаваў ад Генпракуратуры Беларусі адпаведнай праверкі: "*Усе калегіяльныя органы Савета Рэспублікі павінны выбірацца з дзеючага складу яго членаў. З аб'явы пасяджэння Савета старэйшын не зразумела, на якой падставе ён быў створаны*».

**Марына КОКТЫШ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 СТУДЗЕНЯ 2021 г.

БОЛЬ

# «После того как прооперировали Романа Бондаренко, сын приехал домой, и в глазах у него стояли слезы…»

*Корреспондент «Народной Воли» побывал в гостях у родителей арестованного врача-анестезиолога Больницы скорой помощи Артема Сорокина.*



Вечером 12 ноября в реанимации Больницы скорой помощи в Минске умер 31-летний Роман Бондаренко. За сутки до этого узнаваемые люди приехали на «Площадь Перемен» срезать бело-красно-белые ленты, завязался спор, и в итоге Романа скрутили и забрали в микроавтобус. Что происходило после этого – не известно, но в больницу он поступил с травмами, не совместимыми с жизнью.

Позже Лукашенко заявил, что Роман Бондаренко был нетрезв, хотя в интернете появился протокол операции, в котором указывалось: в крови Романа было ноль промилле алкоголя.

А еще через некоторое время были задержаны врач-анестезиолог Больницы скорой помощи **Артем Сорокин** и журналистка TUT.BY **Екатерина Борисевич.**

Руководство Генпрокуратуры поспешило сообщить, что возбуждено уголовное дело по признакам преступления, предусмотренного ч.3 ст.178 (разглашение врачебной тайны, повлекшее тяжкие последствия) Уголовного кодекса Республики Беларусь.

*«Действуя умышленно, без служебной необходимости подозреваемый* (имеется в виду Артем Сорокин. – **Ред.**) *вступил в преступный сговор с представителем интернет-ресурса (TUT.BY), которому сообщил сведения о результатах медицинского освидетельствования Романа Бондаренко*, – говорилось в сообщении Генпрокуратуры. – *Тем самым он разгласил врачебную тайну, при этом представил недостоверную информацию».*

…Родители Артема Сорокина живут в Марьиной Горке возле больницы. Мама, Галина Константиновна, около 40 лет проработала в этой же больнице акушером-гинекологом. Отец, Александр Алексеевич, – учитель физики. Хотя оба уже на пенсии, Александр Алексеевич два раза в неделю еще ездит на работу в Дричинскую школу.

В доме не только родители Артема, но и его 9-летний сын Миша, который от дедушки и бабушки идет в школу – он учится во вторую смену.

– *Супруга сына осталась одна с тремя маленькими детьми, поэтому стараемся помогать,* – говорят мои собеседники. И рассказывают о своей жизни, детях и внуках и о той ситуации, в которую попал Артем.

**Галина Константиновна:** – Я работала в больнице врачом, как-то пришла в школу на осмотр детей. Там и познакомилась со своим будущим мужем. В скором времени сыграли свадьбу, на которой, как мы говорили, собрался медико-преподавательский состав.

Жили мы хорошо, но была одна проблема – я не могла забеременеть. Мы лечились, обследовались, я ездила в разные санатории. И с возрастом начала немного отчаиваться.

И вот однажды в нашу больницу приехала женщина из Минска. Срок беременности – 28 недель. Говорит: «Хочу избавиться от ребенка». Как избавиться?! По медицинским показаниям прерывать беременность можно до 22 недель.

Мы, естественно, начали уговаривать женщину рожать. Сказали, что, мол, ребенка можно оставить в больнице, а затем его кто-нибудь заберет. Так она и сделала. Приехала, родила мальчика, но даже смотреть на него категорически отказалась. А мы с мужем решили новорожденного усыновить. Забрали из роддома, назвали Павлом. А примерно через два года у нас родился Артем. Бог как будто наградил нас за то, что сделали до этого.

**Александр Алексеевич:** – Паше о том, что мы его усыновили, мы не говорили. Так получилось, что 24 года он об этом не знал.

Мы подарили ему дом, который Галине остался от родителей, он там иногда проводил время. Как-то один раз увидели его выпившим, второй… Мог домой ночевать не прийти, и мы начали волноваться. Сложно сказать, какая у парня генетика, поэтому решили Паше рассказать всю правду.

Он, конечно, очень расстроился, даже плакал, но парня нужно было встряхнуть, увести в сторону от компании. Нужно было его чем-то ошарашить.

**Галина Константиновна: –** Сын сказал: «Идите домой, мне нужно побыть одному». Мы к этому отнеслись спокойно, но сказали: «Паша, ты должен знать, что в наших отношениях вообще ничего не изменится. Ты для нас был и остаешься родным сыном».

И уже вечером Павел пришел к нам со своей девушкой и сказал: «Мама, я всё понял, все разговоры на эту тему закончены». С тех пор эту тему мы на самом деле больше никогда не затрагивали.

Паша – добрейшей души человек. Нет ни одного дня, чтобы он нам не позвонил. Если что-то нужно сделать, он всегда первый. Умеет делать по хозяйству все – провести отопление, водопровод, построил великолепную баню.

Кстати, Артем еще школьником знал, что мы усыновили Пашу (думаю, в школе кто-то сказал), но тоже брату ничего не говорил. Только мне однажды сказал: «Мама, я знаю твою самую большую тайну».

А вот родственники мужа до сих пор не знают о том, что мы усыновили Павла, и спрашивают: «Интересно, на кого он похож?» Мы отвечаем: «На деда».

**– Дети по характеру разные?**

**Галина Константиновна:** – Очень разные. Например, Артем уже в школе интересовался политикой. Они с другом поддерживали идеи Зенона Позьняка, ходили на встречи, когда в город приезжали писатель Владимир Орлов и бард Змитер Бартосик. Покупали их книги.

**Александр Алексеевич:** – А еще у Артема всегда было обостренное чувство справедливости. Он всегда горой стоял за правду.

В школе увлекся биологией и химией, он же вырос на больничном дворе. Учился хорошо, у него была только одна четверка – по английскому языку.

Мы детям не мешали жить свободно. Они меняли свои интересы, ходили в разные секции. Артем занимался то лепкой из глины, то шахматами, то баскетболом. Пришел однажды и говорит: «Я записался в музыкальную школу, мне интересна балалайка». Затем стал играть на трубе.

**Галина Константиновна: –** Дети помогали нам по хозяйству, были приучены к труду. Всегда сами мыли посуду, убирали дом.

А еще Артем очень любит готовить. Прихожу с работы – стол уже накрыт. Какие-то бутербродики сделает, стол сервирует. А сейчас какой прекрасный кулинар! Сначала освоил домашние булочки, потом они с женой начали сами хлеб печь. Последние годы ни белый, ни черный хлеб в магазине вообще не покупают. Кстати, Артем попросил супругу и в изолятор передать ему домашний хлеб, и знаю, что она его отправляла. Сын еще всех сокамерников угощал.

Купил печку, казан. Кулинария – это его хобби. Ему приятно показать, что он умеет приготовить еду, которая нравится другим.

**– А почему Артем решил стать медиком?**

**Александр Алексеевич:** – Такую цель перед собой поставил. Кстати, в медуниверситет он поступил только с третьего раза. Два года учился в медицинском колледже, но о своей мечте не забывал. Нанимали репетитора, готовился и в итоге поступил на лечебный факультет.

Ему нравилась студенческая жизнь, Артем жил в общежитии, но каждые выходные приезжал домой.

После окончания университета прошел интернатуру, женился. Наташа тогда училась на 6-м курсе того же медицинского университета.

**Галина Константиновна:** – Она перешла в интернатуру уже беременной. В сентябре, когда надо было идти на занятия, она родила первого сына Мишку.

Жили они у нас, планировали, что после декретного она пойдет в интернатуру, но не получилось. Как-то Артем с Наташей поехали в Пинск к ее родителям и оттуда присылают мне в конверте тест на беременность с двумя полосками. И подпись: «Это наш второй сынок». Так появился Федька.

Интернатуру, конечно, надо было окончить, мы помогали смотреть деток. И Наташа ее окончила, но они с Артемом решили, что два мальчика – это все-таки недостаточно для полноценной семьи. Захотели еще и девочку. И в скором времени семья пополнилась Лией.

После декретного отпуска Наташа пошла устраиваться на работу (она акушер-гинеколог), но на тот момент мест в больнице в Марьиной Горке не оказалось. Предложили Руденскую городскую больницу, выбора не оставалось.

И это был, конечно, мрак. В кабинете, который ей дали, четыре года никто не работал. Там было только акушерское кресло, кушетка и письменный стол. Все! Ни инструментов, ни весов, ни тонометра. Позже, правда, дали тонометр и купили весы. Хорошо еще, что сейчас продаются наборы для гинекологического осмотра, это Наташу спасало. И ведь Руденск – это не глухая деревня, а городской поселок.

**Александр Алексеевич:** – Артем тоже начинал работать в Марьиной Горке. Сначала он был просто врачом-реаниматологом, затем стал заведующим отделением реанимации. Это очень сложная работа, потому что ты должен отвечать практически за все. Случилось ЧП в травматологии – идешь туда. Привезли ребенка в тяжелом состоянии – бежишь к нему.

Но Артем справлялся с работой, хотя был конфликт с главным врачом больницы. Каждый месяц приходилось с боем выбивать зарплату, премии, сражаться с постоянным обманом. Сын уставал больше не от работы, а именно от этой постоянной закулисной борьбы. И сражался



З прыватнага архіву (Courtesy Photo)

он не только за себя, но и за медсестер, санитаров.

В конце концов он написал заявление об увольнении и ушел. А главного врача через некоторое время осудили за какие-то махинации. Правда, позже он вышел на свободу и, насколько мне известно, сейчас работает идеологом на одном из предприятий. Это, наверное, только в Беларуси возможно такое движение по карьерной лестнице.

**Галина Константиновна:** – После этого Артем ушел в Червенскую больницу, пару лет проработал там. Одновременно брал дежурства в Минске в Больнице скорой помощи. А пять лет назад оставил Червень и окончательно уехал работать в Минск.

На велосипеде из деревни, где живет семья, добирался до железнодорожной станции. Велосипед оставлял на вокзале и ехал на электричке в столицу. На машине все-таки накладно ездить в Минск и обратно. Наташа с Артемом вообще как белки в колесе крутились, потому что нужно было и кредит, который взяли на строительство дома, ежемесячно гасить, и на отдых на море собирали.

**– Дом строили с нуля?**

**Александр Алексеевич:** – Участок дали в деревне, которая находится всего в паре километров от Марьиной Горки. Свой дом – это было для Артема мечтой всей жизни. Взяли кредит, года четыре строили, хотя отделкой еще до сих пор занимаются.

Так что они были в постоянных заботах и хлопотах. С тремя детьми сложно, но Артем в них души не чает.

**– Вы говорили, что в школе Артем увлекался политикой. 9 августа на выборы он ходил?**

**Александр Алексеевич:** – И Артем с Наташей ходили, и я с супругой. Все голосовали за Светлану Тихановскую. Мы и белые ленточки на руки повязали. В Марьиной Горке народ активно голосовал. В чате до сих пор обсуждаем последние новости, а перед Новым годом собрались в центре города на елке, нас с Галиной люди встречали, обнимали и говорили: «Ваш сын – герой!»

Конечно, очень много сочувствующих. И звонили со словами поддержки, и домой приходили. Но все равно очень больно от такой несправедливости.

**– Вам сын что-то рассказывал о том, как к ним в больницу поступил Роман Бондаренко?**

**Галина Константиновна:** – Артем тогда приехал с дежурства и зашел к нам. Встал у порога, смотрю – у него в глазах слезы. И рассказывает: «Мама, сегодня был такой ужасный случай! К нам поступил избитый парень. У него проломлен череп, в рану выступил отечный мозг. Сам тоже весь избитый. И мы всю ночь работали над тем, что заправить этот мозг хотя бы под кожу. Но шансов выжить у него нет».

Я ему тогда сказала: «Сынок, я уже видела в Телеграм-канале протокол операции и даже запомнила фамилию хирурга». Хотя через некоторое время в этом протоколе были замазаны фамилии. И не известно, кто отправил этот протокол в интернет, потому что, когда после операции Артем пришел в ординаторскую, документ уже был опубликован.

В том протоколе было написано: в крови Романа Бондаренко ноль промилле алкоголя. И, видимо, это властям не понравилось. Тем более что Лукашенко на всю страну заявил, что Рома Бондаренко был «в нетрезвом состоянии, заключение представил Следственный комитет».

Это, наверное, и оказалось сигналом для силовиков, чтобы доказать: убитый Рома Бондаренко был пьян. Вопреки анализам и протоколу.

**– Как задерживали сына?**

**Александр Алексеевич:** – 12 ноября умер Роман Бондаренко, а примерно через неделю задержали сына и журналистку TUT.BY Екатерину Борисевич, которая готовила материал о Романе.

**Галина Константиновна:** – 18 ноября Артем был на работе, уже утром силовики пришли в больницу. До 16.00 он доработал, а затем его задержали и увезли. Вечером позвонила Наташа: «Артем не у вас? Не могу дозвониться». – «Не заходил».

Чуть позже Наташе позвонили из Генпрокуратуры и дали трубку Артему. Тот сообщил о задержании и по возможности успокоил жену. А уже через 5 минут открылась дверь – на пороге стояли люди, которые пришли с обыском. Колоритным оказался понятой с синяками под глазами, которого участковый привел в дом в наручниках. Возможно, какого-то бомжа из камеры выдернули.

Из дома забрали компьютерную технику, электронные носители, фотоаппарат, две электронные книги, телефон Наташи, даже бланки рецептов и 50 долларов, которые нашли. Наташа спрашивает: «А деньги зачем забираете? У меня же трое детей, мне за что-то жить надо». В ответ бросили: «Проживешь».

**– Дети были при обыске дома?**

**Галина Константиновна:** – Были, и сегодня они знают, где находится их папа. Только Лийке мы говорим, что папа в командировке, потому что она еще слишком маленькая и ей трудно объяснить, что к чему.

**– Примерно через неделю после задержания по БТ показали признание Артема. Он сказал, что полностью признает свою вину и готов понести законное наказание…**

**Александр Алексеевич:** – Думаю, что первую неделю следователи как раз и работали над тем, чтобы выдавить из сына это признание. Даже коллеги Артема рассказывали, что всю неделю силовики что-то искали в больнице и пытались доказать, что Рома Бондаренко был нетрезвым.

**Галина Константиновна:** – Заявлялось, что, мол, алкоголь обнаружен в моче. Но этанол в моче говорит о прошедшем времени. То есть если ты, скажем, месяц назад пил вино, то в моче у тебя могли остаться следы этанола. Трезвый ты или нет в данный момент, может показать только анализ крови. А в крови у Романа Бондаренко на момент поступления в больницу был ноль промилле алкоголя.

Я не исключаю, что Артема шантажировали семьей. Могли, например, угрожать тем, что заберут детей. Поэтому мы, когда увидели видеообращение сына, сначала немного расстроились, а затем подумали, что на данный момент Артем поступил верно. Умные люди и так всё понимают, а дуракам ничего не объяснишь.

Сразу сыну предоставили адвоката в КГБ, и в обращении Артем заявлял, что он его устраивает. А тот таким уже соловьем заливался!.. Обещал, что чуть ли не через пару дней сын будет на свободе. Но когда с Артема в СИЗО КГБ взяли признательные показания, то его перевели в следственный изолятор на Володарского, а про все обещания забыли.

**– Генпрокуратура заявила, что в отношении Артема возбуждено уголовное дело по статье «Разглашение врачебной тайны, повлекшее тяжкие последствия»…**

**Александр Алексеевич:** – Врачебная тайна защищает интересы пациента и его близких. К тому же сообщение о том, что Рома Бондаренко был трезв, соответствует действительности. И вообще, что это за государство, устои которого может потрясти анализ крови?!

Но самое главное: пока копаются в этих самых анализах, доказывая что-то, как-то уже забыли о самом важном – Романа Бондаренко ведь убили. Пока Артем и Катя Борисевич сидят в СИЗО, по факту убийства Романа даже не заведено уголовное дело. Не называются убийцы, они свободно гуляют на свободе, хотя при желании, думаю, их личности можно было бы установить в два счета. И уже не вспоминают об этом. Произошло переключение с главной темы на второстепенную.

**Галина Константиновна:** – И даже если допустить, что было какое-то нарушение врачебной тайны, то за это предусмотрена административная ответственность (штраф или дисциплинарное взыскание), но никак не уголовное дело.

**– Артем пишет вам письма?**

**Александр Алексеевич:** – И нам пишет, и Наташе уже около 20 писем прислал. У него корреспонденция огромная, сын говорит, что ежедневно получает 10–15 писем.

О своем деле он практически ничего не рассказывает, потому что цензура не пропускает такие письма. В основном описывает быт изолятора. В камере с ним сидят восемь человек, все люди с высшим образованием. Оказывает какую-то медицинскую помощь одному из сидельцев, читает всем лекции на медицинские темы. Поэтому мы Артему написали: «Тренируйся, возможно, в будущем будешь преподавать студентам».

**Галина Константиновна:** – А еще он очень страдает без книг, потому что их запрещено передавать в СИЗО. Всю специальную литературу по анестезиологии, которую коллеги Артема пробовали передать ему в изолятор, не пропустили. Где-то лежат на складе.

Кстати, дети тоже пишут папе, Миша и Федька отправляют свои рисунки, а он им отвечает.

– *Папа скоро вернется!* – оптимистично добавляет Миша, и я ему верю.

**Алесь СИВЫЙ.**
Марьина Горка – Минск



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## На футбольным полі месца ўсім даволі?

Уладзімір Шанцаў паведаміў у Магілёўскі гарвыканкам, што ён збіраецца "правесці на сваім балконе мерапрыемства ў выглядзе вывешвання бел-чырвона-белага сцяга". Выканкам дазволу не даў на той падставе, што "адзінай пляцоўкай для пікетаў, мітынгаў і дэманстрацый з'яўляецца былое футбольнае поле".

Гэта зараз не сакрэт:  
Калі ў людным месцы дзесьці  
Нейкі мітынг ці пікет  
Раптам ты рашыў правесці,  
Дык спачатку сухары  
Насушы для каталажкі,  
Цёплых рэчаў набяры –  
Трэба мець пакунак важкі.  
Так улада ў абцугі  
Узяла апошнім часам,  
Што насіць з сабой сцягі  
Не дае народным масам  
І ківае на закон,  
Што "праполвае" крамолу.  
Нат са сцягам на балкон  
Нельга выйсці без дазволу,  
Хоць балкон уласны, свой,  
Ён не вуліца, не плошча,  
І таму бяды такой,  
Што над нечай галавой  
Вецер сцяг той папалошча.  
…Каб яго не торгаў "мент",  
Не караў яго сурова,  
Парашыў эксперымент  
Зладзіць дзядзька з Магілёва.  
Думка цюкнула яму:  
"Сцяг я вынесу таксама,  
Алё ўсё ж дазвол вазьму  
У чынуш з гарвыканкама".  
Сумняваўся, праўда, сам,  
Што дадуць дабро намеру,  
Ды падаў у выканкам  
Ён належную паперу,  
Што павесіць хоча сцяг.  
А ў чынуш настрой журботны,  
Бо, як кажуць, у касцях  
Бел-чырвоныя палотны.  
Ідэолагі-жанкі  
Цэлы дзень мазгі сушылі:  
Даць яму адказ які,  
Каб не мець зыход паршывы?  
Не зляцяць галовы з плеч,  
Ды, канешне, будзе блага,  
Як дазволіш насамрэч  
Зладзіць дзядзьку "свята сцяга",  
Бо пацягнецца народ,  
І стыхійна ўзнікне шэсце…  
Як здалося, хітры ход  
Нехта выдумаў нарэшце.  
І далі такі адказ,  
Мужыка адбрыўшы лоўка:  
"Для пікетчыкаў у нас  
Ёсць адзіная пляцоўка,  
Што пустуе ўжо здаўна –  
Месца там для ўсіх даволі.  
І знаходзіцца яна  
На былым футбольным полі.  
Футбалісты нашы там  
Колісь бегалі, як коні!  
Сцяг Вам, лічыць выканкам,  
Нельга вешаць на балконе…"  
Каб не трапіць у турму,  
Дзядзька вешаць сцяг не стане –  
Не дазволілі яму…

***

Рытарычнае пытанне:  
А дазвол ці мецьме ён,  
Што адкажа хеўра тая,  
Калі сцяг на стадыён  
Ён прынесці пажадае?..

### Вачыма двустволкі

Ён думаў, што будзе хана…  
Пагляд яе колкі:  
На мужа глядзела яна  
Вачыма двустволкі…

### Пашукай другое месца

Як жонка не глядзіць сурова,  
Настрой вясёлы, сыпле жарты,  
Дык для заначкі тэрмінова  
Знайсці другое месца варта…

### Падземнае царства

Пытанне не зусім прыемнае:  
– Як цешча?  
– Царства ёй падземнае…

### След

Як быццам у жыцці  
Навіслі хмары,  
Нібы яго вярэдзіла турбота:  
Адбітак смутку  
На яго́ным твары  
Падобны быў  
На след ад бота…

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# «Пакуль мяне дапытвалі, побач збівалі людзей, і нікога гэта не бянтэжыла»

*Паліна Ляднёва, тоненькая светлая дзяўчына, толькі мінулым летам сустрэла сваё 18-годдзе. Але за некалькі паствыбарных месяцаў яна пасталела так, як не пасталела б за цэлы год. Яна прайшла праз затрыманні, штрафы, суткі і допыт у КДБ, але гэтыя выпрабаванні толькі павялічылі яе натхненне і любоў да роднай краіны.*

### «Зразумела, што не магу прапусціць выбары ў Беларусі»

Бацькі Паліны – мастакі, і сама яна таксама з дзяцінства малюе. Але вырашыла паступаць у Расійскі інстытут тэатральнага мастацтва (ГИТИС) на рэжысуру. У Маскве Паліна правучылася год, а потым пачаўся каранцін, і дзяўчына, прыехаўшы дадому, вырашыла больш не вяртацца: зразумела, што рэжысура – гэта пакуль не яе.

– *Але выбары таксама паўплывалі. Я прымала рашэнне аб сыходзе летам. І калі пасадзілі Бабарыку, я выйшла на свой першы палітычны пікет і зразумела, што не магу прапусціць выбары ў Беларусі. А вучоба ў нас пачыналася 21 ліпеня.*

Паліна прызнаецца: падзеі, якія адбываліся да выбараў, яна ўспрымала хутчэй як прыгоду. Але трыгерам для яе стаў неапраўданы гвалт, які здарыўся пасля.

– *Дакладней, не тое, што ён цяпер здарыўся, а тое, што ён быў усе гэтыя 26 гадоў, а я пра гэта не ведала. Гэта было адначасова і здзіўленне, і страх, што такое можа і далей працягвацца.*

І дзяўчына вырашыла выходзіць, каб падтрымліваць і ўласны эмацыйны стан, і людзей навокал. У першыя паслявыбарныя дні, гаворыць Паліна, страху не было, а быў моцны стрэс. Страх з'явіўся, калі ў краіне аднавіўся інтэрнэт, і яна пабачыла фотаздымкі з пратэстаў.

### Сказалі, што «абдзяўбаная», і закінулі ў бус

Першы раз Паліну затрымалі 11 жніўня, і гэтае затрыманне было для яе самым страшным.

– *Я выйшла з дому і пайшла шукаць, дзе збіраюцца людзі. Дайшла да Камароўкі і сустрэла там групу з пяці чалавек. Мы пайшлі па вуліцах, і ў выніку нас сабралося чалавек 30. Дайшлі да "Рыгі", там было чалавек 300–400. Было ўжо позна, я зразумела, што нас мала і трэба вяртацца. І калі я вырашыла ісці, увесь натоўп пайшоў у напрамку майго дома. У гэты час мне патэлефанаваў тата, які ездзіў у ваколіцах на машыне і сачыў за тым, што адбываецца, і сказаў, каб мы былі асцярожныя, бо на нас палююць два бусы.*

Адарваўшыся ад натоўпу, Паліна чакала на святлафоры, калі загарыцца зялёны, каб перайсці дарогу, і патэлефанавала бацьку, каб сказаць, што ўжо ідзе дадому. У гэты момант праехала спачатку машына ДАІ, а за ёй… так, два бусы.

– *Гэта здарылася за секунду: я не паспела адключыць тэлефон, ззаду падбягаюць, хапаюць, забіраюць тэлефон, разварочваюць мяне і глядзяць на мае зрэнкі, кажуць, што я «абдзяўбаная», закідваюць у адзін бус, потым адразу ў другі, ставяць на калені, паклаўшы рукі на сядзенне,* – узгадвае Паліна.

У яе тэлефоне амапаўцы знайшлі некалькі фатаграфій з 9 жніўня, і гэта стала нагодай для псіхалагічных прыніжэнняў.

– *Мне пагражалі 10 гадамі, казалі, што я загубіла сваю маладосць. Гэта было маё першае затрыманне, я не ведала, куды мяне вязуць, што будзе, таму было вельмі страшна. А яшчэ было страшна ад таго, што я не паспела папярэдзіць бацькоў.*

Паліну прывезлі на Стэлу – у тую ноч туды прывозілі ўсіх затрыманых і перагружалі ў міліцэйскія «бобікі». Наўпрост на вуліцы затрыманых даглядалі, вытрасалі заплечнікі. Затым дзяўчыну павезлі ў Фрунзенскае РУУС.

– *Нас не чапалі, але па дарозе падбіралі мужчын і вельмі моцна іх збівалі – да такой ступені, што яны не маглі самі заходзіць у гэтыя «стаканы» ў «бобіках». Потым затрымалі нейкага бацюшку, які ехаў на ровары з трэніроўкі. Яго збілі, крыху правезлі і выкінулі.*

### Нехта ў спартыўным адзенні ўдарыў нагой па лбе

У РУУСе затрыманых прывялі ў спартзалу. Калі туды даставілі Паліну (гэта было блізу 12 ночы), там ужо знаходзілася каля сотні чалавек. Потым прывозілі новых людзей. Хлопцы і мужчыны ляжалі ўсе збітыя, у кагосьці было парвана адзенне. Але некалькі чалавек былі цэлыя і стаялі – гэта Паліну здзівіла.

Яе разам з іншымі паставілі да сцяны і надзелі кайданкі. Потым дапытвалі, здымалі на відэа. Людзі, якія гэта рабілі, былі без формы, але Паліна мяркуе, што гэта супрацоўнікі ГУБАЗІКа.

– *Яны былі самыя жорсткія. АМАП прыводзіў, міліцыянты проста складалі пратаколы, а гэтыя білі. Мяне не білі, і ўвогуле ставіліся нармальна, толькі запытваліся: чаму выходзіш, колькі табе заплацілі, хто плаціў?..*

Пасля допыту Паліну паставілі на калені, ілбом у падлогу, рукі назад. Так давялося стаяць досыць доўга.

– *Калі вялі на вопіс рэчаў, мяне вельмі груба ўзялі, адшпілілі ад адной рукі кайданкі. Трэба было пры ўсіх зняць і выцягнуць з-пад адзення станік. Вопіс складала жанчына, якая, з аднаго боку, вельмі моцна на мяне псіхалагічна ціснула, спрабавала выхоўваць, але ў той жа час недзе і дапамагала. У мяне быў белы бранзалет і значок з «Пагоняй», і яна сказала: «Лепш здымі, давай я выкіну, каб не было наступстваў».*

*Быў адзін малады міліцыянт, які спрабаваў да мяне прыставаць: вельмі недвухсэнсоўна мяне абдымаў, кранаў, калі я стаяла наўпрост на допыце ў кайданках. Усё гэта было навідавоку. І што мяне яшчэ ўражвала: пакуль мяне спакойна дапытвалі, побач збівалі людзей, і нікога гэта не бянтэжыла, гэта было нормай – і гэта страшна. Таго міліцыянта нядаўна задэанонілі, я яго пазнала. Пазней ён дапамагаў дзяўчатам: здымаў кайданкі, даваў папіць.*

На нейкі час пра Паліну забыліся, а потым да яе падышоў чалавек без формы і загадаў стаць на калені галавой у падлогу пасярод залы. Праз нейкі час пасля гэтага да яе падышоў яшчэ адзін супрацоўнік у спартыўным адзенні, спыніўся ў 10 сантыметрах ад яе галавы, зрабіў крок і ўдарыў яе нагой па ілбе.

– *Болю я ў той момант не адчувала, напэўна, у стрэсе болевы парог адключаецца. Але мне стала вельмі крыўдна, я падумала: чым яго так жанчыны пакрыўдзілі?*

Потым да Паліны прыйшоў «добры-злы паліцэйскі», паставіў каля яе, што ляжала галавой у падлогу, крэсла, сеў на яго і стаў запытвацца, чым ёй дапамагчы. Потым ён сказаў, што, калі атрымаецца, дзяўчына сёння пойдзе дамоў, і адвёў яе да сцяны.




Паліна ўласнымі вачыма бачыла пратакол, складзены з яе слоў: што яе затрымалі каля парку Дружбы народаў, яна ішла дадому адна. Але пазней ёй далі на подпіс іншы пратакол. Яго не дазвалялі прачытаць, але Паліна паспела заўважыць, што, паводле яго, яе затрымалі на Каменнай Горцы на мітынгу праз гадзіну пасля рэальнага часу затрымання, і нібыта яна выкрыквала лозунгі «Свабоду Статкевічу!», «Свабоду Севярынцу!».

У той дзень (а тым часам ноч прайшла) Паліна аказалася адзінай, каго адпусцілі дадому. Суд над ёй адбыўся 28 жніўня. Прычым аб працэсе дзяўчына даведалася за гадзіну да яго, калі прыйшло СМС. Ніякім іншым чынам Паліну ў суд не выклікалі. Нягледзячы на ўсе працэсуальныя парушэнні, ёй прысудзілі 20 базавых велічынь штрафу.

### «Суседка прынесла грошы на штраф»

8 верасня падчас жаночага маршу ў падтрымку Марыі Калеснікавай сеціва абляцелі здымкі жорсткіх затрыманняў жанчын, якія стаялі ў сцэпцы на Машэрава. Сярод іх была і Паліна з малодшай сястрой.

– *Спачатку нам сказалі сыходзіць, маўляў, забяруць толькі хлопцаў. Але іх было чалавек 10 усяго, таму немагчыма было сысці. І ў пэўны момант сталі пачкамі загружаць усіх у аўтазакі.*

Адтуль Паліна змагла патэлефанаваць родным і нават даслаць бацьку кантакты адваката.

У Першамайскім РУУС, куды прывезлі затрыманых, сітуацыя была зусім іншай, чым у Фрунзенскім.

Пратэстоўцы перазнаёміліся, сядзелі і размаўлялі паміж сабой. Потым сястру Паліны адпусцілі, бо яна непаўнагадовая, а ўсіх астатніх пагрузілі ў аўтобус і павезлі на Акрэсціна. Там у тую ж раніцу адбыліся суды. Паліне далі 15 базавых.

– *Цікава, што момант нашага з сястрой затрымання трапіў на відэа «Анлайнера» і на шматлікія фатаграфіі. І многія настаўнікі з гімназіі-каледжа мастацтваў, дзе я вучылася, пачалі тэлефанаваць майму тату і запытвацца, як дапамагчы. На наступны дзень суседка проста прынесла грошы на штраф,* – дзеліцца Паліна.

Пасля другога затрымання Паліна стала больш асцярожнай.

### «Паліна, усё добра, ты не перажывай»

13 кастрычніка дзяўчына паехала па справах у атэльe, якое месціцца каля станцыі метро «Маладзёжная». Па дарозе каля Інстытута журналістыкі БДУ ўбачыла акцыю студэнтаў, якія спявалі песні. Пастаяла з імі пару хвілін і пайшла далей.

– *Падыходжу да атэльe, і тут на мяне ззаду накідваюцца два агромністыя мужыкі. Перада мной спыняецца белая ці серабрыстая машына; трэці адчыняе дзверы, чацвёрты – за рулём. Мяне запіхваюць у машыну, гаворачы: «Паліна, усё добра, ты не перажывай». Адразу адбіраюць тэлефон, надзяваюць на галаву мяшок і вязуць кудысьці.*

Паліна вельмі напалохалася. Яна ўзгадвае, што па дарозе яе спрабавалі забалбатаць, казалі, што яе зараз прывязуць паглядзець на людзей, і калі яна іх пазнае, яе адпусцяць.

Калі прыехалі, яе, з мехам на твары, доўга вялі ўверх спачатку па лесвіцы, потым – па дывановай дарожцы. Нарэшце прывялі ў кабінет і знялі мяшок. У кабінеце Паліне ў вочы кінуўся дыван у выглядзе дзяржаўнага сцяга, які вісеў на сцяне.

Паступова Паліна здагадалася, што яна знаходзіцца ў КДБ. Там яе дапытвалі 5 гадзін.

– *Адразу, калі зайшла, я ўбачыла на стале раздрукаваныя копіі пашпартоў: майго і маіх бацькоў.*

Аказалася, Паліну вылічылі па відэа, якое 4 кастрычніка падчас нядзельнага маршу знялі ціхары.

– *Я раніцай выходзіла ў машыну па друшляк, папрасіла бацькоў прывезці яго з вёскі. І выйшла, каб яго забраць. І першае пытанне было: «Навошта табе быў патрэбны друшляк?» Потым было пытанне пра фіранкі, пра нейкую суседку, і я зразумела, што за мной сачылі, і не адзін дзень. Я ўзгадала, як раніцай мяне пазнала нейкая жанчына і пайшла за мной, але я не надала гэтаму ўвагі. Потым мама ўспомніла, што за ёй сачылі на працы, і тата сказаў, што некалькі разоў у яго пільна ўглядалася нейкая жанчына.*

У Паліны дапытваліся пра дваровую актыўнасць, пра тое, чаму яна выходзіць на маршы, пра бацькоў і знаёмых, а таксама не вельмі знаёмых людзей.

– *Цяпер я разумею, што трэба было проста маўчаць і нічога не казаць. І я рабіла спробы, але вельмі слабыя. Але тады ў мяне, відаць, спрацавала абарончая рэакцыя – я шмат-шмат балбатала, але не пераходзіла межаў: «Так, я хаджу і буду хадзіць». Я распавяла, што я бачыла 11 жніўня, мяне прарвало, у мяне паліліся слёзы. І яны ажно замоўклі, а пасля спыталіся, ці падавала я скаргу ў пракуратуру.*

*А потым прыйшоў ідэолаг, поўны прафесіянал і вельмі добры акцёр. Ён зразумеў, што мяне палохаць нельга, і пачаў са мной пагаджацца, але стаў ціснуць на мяне праз бацькоў і ўскладаць на мяне віну за іх лёс і лёс сястры, якую паставілі на ўлік. Спачатку я таксама вырашыла з ім гуляць. Але потым у мяне скончыліся сілы, і мне па чарзе сталі прапаноўваць то каву, то каньячок. Калі выводзілі ў прыбіральню, доўга шукалі павязку ці мяшок на галаву, але не знайшлі, таму сказалі проста апусціць галаву ўніз, бо «тут проста так хадзіць нельга». Я ішла па чырвоным дыванку і бачыла на сценах нейкія карціны.*

У КДБ склалі чарнавік пратакола на Паліну за ўдзел у маршы 4 кастрычніка. Потым яе прывезлі ў Савецкае РУУС. Калі яе там пакідалі, пажадалі ўдачы.

– *Мне было адначасова вельмі брыдка і вельмі смешна. Брыдка, бо ў кантэксце маёй галавы яны – вельмі слізкія і прадажныя людзі, з якімі непрыемна знаходзіцца побач, а смешна – ад усяго таго абсурду, які адбываўся. Гэта крыху ратавала,* – каментуе Паліна.

### «Пад канец нават не хацелася выходзіць з турмы»

Яе прывезлі ў РУУС першай, а потым туды сталі падвозіць затрыманых у ланцугах салідарнасці. Паліна даведалася, што ў міліцыянтаў ёсць «на пабягушках» падлеткі – хлопцы, якія бегаюць і дакладаюць, дзе што адбываецца.

Пасля Паліну павезлі ў ІЧУ на Акрэсціна. Цягам двух дзён яе не маглі асудзіць, бо, у адрозненне ад усіх, пратакол на яе быў складзены не за ўчарашні дзень, а за 4 кастрычніка. Гэтыя два дні былі для яе самымі цяжкімі, бо дзяўчына ніяк не магла звязацца з бацькамі і думала, што супрацоўнікі КДБ прыехалі і да іх.

– *Гэтыя два дні я проста плакала. Мы сядзелі ў вельмі смярдзючай камеры, нас кепска кармілі, балела галава. Адзінае, што ратавала, – гэта Вольга Шпарага, якая ўжо адседзела там 5 сутак. Яна нас падтрымлівала.*

Пасля першага суда справу Паліны адправілі на дапрацоўку, бо ў пратаколе не было ні паказанняў сведак, ні нават скрыншота з відэа. На другім судзе сведка «захварэў», але пакінуў свае паказанні ў запісцы, якую зачыталі. Яны былі цалкам спісаны з пратакола. Гэтым разам Паліне выпісалі 11 сутак арышту. Яе бацькі пра рашэнне суда змаглі даведацца толькі праз паўтара сутак, бо працэс не быў пазначаны ў раскладзе.

Паліна прабыла яшчэ дзень на Акрэсціна, а потым яе этапіравалі ў Жодзіна. І там, апроч самой прыёмкі, усё было, паводле яе слоў, «*вельмі добра*». У камеры было восем дзяўчат, сярод якіх дызайнеркі, каліграфістка, медык, адвакатка. Дзяўчаты малявалі, спявалі песні, гулялі ў розныя гульні, чыталі ўслых, размаўлялі. Паліна склала цэлы спіс таго, чым яны займаліся ў турме.

– *Не было страху, а было адчуванне санаторыя, бо мы ўсё вымылі ў камеры, абжыліся. Пад канец нават не хацелася выходзіць. Бо я разумела, што па-за турмой засталіся ўсе праблемы,* – гаворыць наша суразмоўца.

### «Мне здаецца, што ў нас будзе вельмі добрая, яркая і светлая вясна»

Першы час пасля вызвалення ў Паліны быў страх, што за ёй могуць сачыць, але паступова гэтыя перажыванні адышлі.

А неўзабаве здарылася трагедыя з Раманам Бандарэнкам, з якім Паліна пазнаёмілася літаральна за тыдзень да яго смерці. Паліна жыве недалёка ад Плошчы Перамен, і ўсе падзеі, што там адбываюцца, праходзяць на яе вачах і вельмі моцна адгукаюцца ў сэрцы. Дзяўчына распавядае, што вельмі цяжка перажывала смерць Рамана, яна ўпершыню так блізка сутыкнулася з гэтай з'явай.

Пік перажыванняў адбыўся 15 лістапада падчас зачысткі Плошчы Перамен. Паліна зразумела, што ёй трэба з'ехаць. І з'ехала на два тыдні ў Піцер, адпачыла, а потым вярнулася ў Беларусь. Паліна не збіраецца з'язджаць з краіны, калі ёй і яе блізкім не будзе прамой пагрозы.

Дзяўчына гаворыць, што 9 жніўня стала пераломным у яе жыцці і наступныя некалькі месяцаў шмат што ёй далі. Паліна зазначае, што стала менш эгаістычнай, адчула сябе часткай народа, пазнаёмілася з цудоўнымі суседзямі, наладзіла стасункі з бацькамі, зразумела свае магчымасці і сваю адказнасць. Перажыванні, якія раней здаваліся вялікімі, цяпер сталі няважнымі. Паліна прызнаецца, што часта плакала, але не ад таго, што ўсё кепска, а ад таго, якімі цудоўнымі аказаліся людзі, якіх яна сустракае. І ўсё гэта дазваляе адчуваць сябе шчаслівай.

– З аднаго боку, хочацца, каб тут усё хутчэй скончылася. З іншага боку, ёсць людзі, якія змагаюцца з гэтым 26 гадоў, і я іх вельмі моцна паважаю. Таму трэба далей працягваць рабіць усё, што ў маіх сілах. Мне здаецца, што ў нас будзе вельмі добрая, яркая і светлая вясна.

**Дзіяна СЕРАДЗЮК.**

*(novychas.by)*

СТАЛА ВЯДОМА...

## У Мінску з'явяцца вуліцы Лучанка, Савіцкага і Левіна

Назвы зацверджаны рашэннем Мінгарсавета, яно апублікавана на Нацыянальным прававым партале.

У комплексе «Мінск-Свет» дадуць назвы тром вуліцам:

– праектаваная №7 стане вуліцай у гонар архітэктара Леаніда Левіна;

– №8 стане вуліцай у гонар мастака Міхаіла Савіцкага;

– №12 стане вуліцай у гонар кампазітара Ігара Лучанка.

Дадуць назвы і некалькім вуліцам у межах Партызанскага праспекта, вуліц Куляшова, Шышкіна:

– праектаваная вуліца №1 стане вуліцай Рудабельскай (былая назва пасёлка Акцябрскі ў Гомельскай вобласці, там у 1918–1920-х была Рудабельская партызанская рэспубліка);

– праектаваная вуліца №2 стане вуліцай Міхаіла Мармулева (па імені партызана, Героя Савецкага Саюза);

– праектаваная вуліца №4 стане вуліцай Віктара Ліванцава (па імені партызана, Героя Савецкага Саюза). Раней вуліца Ліўенцава была ў іншым пункце Партызанскага праспекта, яна вельмі кароткая – яе з гэтага часу будуць называць Адэскім праездам.

Акрамя таго, праектаваную вуліцу №1 (3-е кальцо) у працягу вуліцы Станіслава Манюшкі будуць таксама называць іменем кампазітара.

МНЕНИЕ

Андрей ДМИТРИЕВ, координатор движения «Говори правду»:



**– …В сегодняшнем виде власть не способна выиграть любые выборы даже в привычном для себя формате: как только большинство мобилизуется, с улиц уже никто не уйдет.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Вяртанне і адстаўка арцыбіскупа Кандрусевіча: кампраміс ці капітуляцыя?

*Чаму Папа Рымскі Францішак задаволіў прашэнне аб адстаўцы арцыбіскупа Кандрусевіча? Што атрымала ад гэтага Каталіцкая царква Беларусі? Чым тлумачыцца прызначэнне часовым пераемнікам біскупа Казіміра Велікасельца? Гэтыя пытанні ў «Пражскім акцэнце» абмеркавалі палітолаг, дырэктар Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў* ***Пётра Рудкоўскі*** *і гісторык і журналіст* ***Сяргей Абламейка.***

**Сяргей Абламейка:** – Для мяне гэтае рашэнне Ватыкана было чаканым. Я ўсё ж назваў бы яго капітуляцыяй.

Напярэдадні Новага года з’явіўся супольны зварот, заклік да грамадзянскага міру, які падпісалі праваслаўны мітрапаліт, рабін, муфтый і апостальскі нунцый. Я тады думаў, што гэта кампраміс, што гэта і ёсць цана вяртання Кандрусевіча.

Думаю, прыняцце адстаўкі Кандрусевіча вельмі пакрыўдзіла беларускіх каталікоў. У грамадскім канфлікце арцыбіскуп Кандрусевіч быў на светлым баку. Калі гэта і кампраміс, то дзеля чаго, што атрымала Каталіцкая царква ўзамен?



Мы не ведаем, якую грамадскую пазіцыю зойме Кандрусевіч пасля адстаўкі. У каталікоў царкоўная іерархія даволі жорсткая. Яму лёгка могуць закрыць рот.

Кандрусевіч пакуль, вельмі ненадоўга, застаецца старшынёй Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі.

Лепш было б пакінуць Кандрусевіча кіраўніком беларускай Каталіцкай царквы, нават калі б ён заставаўся за мяжой, а ў Беларусі мог кіраваць нехта часовы. Гэта было б справядліва.

Беларускія ўлады, відавочна, не хацелі, каб на месца Кандрусевіча прызначылі Юрыя Касабуцкага. Ватыкан сапраўды пайшоў па лініі найменшага супраціву і прызначыў часовым кіраўніком кампрамісную фігуру.

За апошнія 20 гадоў ватыканская дыпламатыя паказала сябе ў Беларусі і адносна Беларусі даволі кепска. Гэтая дыпламатыя ідзе ў фарватары Расіі. Так было са спробамі запрасіць Папу Рымскага ў Беларусь, так было, калі за апошнія 30 гадоў беларускім грэка-каталікам так і не далі біскупа, так было і тады, калі за 13 гадоў вельмі плённага служэння ў Беларусі Тадэвушу Кандрусевічу так і не надалі сану кардынала. Ды нават ў пераводзе Кандрусевіча ў Беларусь з Масквы таксама была саступка тагчаснай пазіцыі Крамля адносна Кандрусевіча.

Ватыкан, Ватыканскую курыю можна змусіць да кампрамісу і нават да падпарадкавання, а Каталіцкую царкву, яе святароў і вернікаў – не. Палітыкі, дыпламаты – гэта адна справа, а святары заўсёды ідуць са сваімі вернікамі да канца.

**Пётра Рудкоўскі:** – Ватыкан пайшоў па лініі найменшага супраціўлення. Я назваў бы гэта ўсё ж кампрамісам, нейкія саступкі зрабіў і Ватыкан, і беларускі рэжым.

Я спадзяваўся, што саступка Ватыкана будзе не такой.

На працягу гісторыі нашмат больш было праблем і для Каталіцкай царквы, і для грамадства, калі Ватыкан празмерна ўмешваўся ў свецкія справы, чым калі захоўваў стрыманую пазіцыю. Гэтым часткова можна патлумачыць пэўную стрыманасць Ватыкана і стаўку на кампрамісы ў XX стагоддзі, асабліва пасля II Ватыканскага сабору.

Калі б Ватыкан заняў жорсткую пазіцыю, улады не пагадзіліся б на вяртанне Кандрусевіча ў Беларусь. Ён мог бы застацца за межамі Беларусі на гады. Для Каталіцкай царквы гэта было б неэфектыўнае кіраванне з-за мяжы.

Уплыў Кандрусевіча паволі змяншаўся б, калі б ён заставаўся за мяжой. Моц Кандрусевіча палягала не ў яго пасадзе, а ў яго сацыяльным капітале. І ён застаецца з ім.

*(Svaboda.org)*

## Чым вядомы біскуп Велікаселец, якога Папа прызначыў часова кіраваць Каталіцкім касцёлам у Беларусі

5 мая 2020 года дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец, а цяпер часовы кіраўнік Каталіцкага касцёла ў Беларусі, адзначаў сваё 75-годдзе. Гэта найстарэйшы іерарх сучаснага Каталіцкага касцёла ў Беларусі, паведамляе *Vatican News*.

Тадэвуш Кандрусевіч памятае сваё знаёмства з Казімірам Велікасельцам. Гэта было ў 1980-х гадах у Вільнюсе. У той час малады святар Кандрусевіч служыў у капліцы Вострабрамскай Маці Божай, а Казімір Велікаселец працаваў зваршчыкам на будаўніцтве ўнівермага ў Вільнюсе і прыходзіў на святую імшу. І ўжо тады вучыўся ў падпольнай духоўнай семінарыі. Час быў цяжкі, не хапала кніг, таму Казімір прасіў у ксяндза Тадэвуша літаратуру для навучання. Так і пасябравалі.

Казімір Велікаселец нарадзіўся 5 мая 1945 года ў вёсцы Стараволя Пружанскага раёна цяперашняй Брэсцкай вобласці ў сям’і сялян. Ужо ў 1948 годзе парафіяльны касцёл тут зачынілі, святара арыштавалі. Але дзякуючы глыбокай веры бацькоў Казімір з дзяцінства быў прывучаны да малітвы. Да першай споведзі і святой камуніі хлопчыка рыхтаваў бацька. І адвёз яго, 10-гадовага, на ровары ў бліжэйшы касцёл у Кобрын – гэта 60 кіламетраў у адзін бок. Казімір Велікаселец памятае, як у дзве гадзіны ночы бацька пасадзіў яго побач на ровар, і к 8 раніцы яны былі ў Кобрыне. Там святар прыняў іспыт у Казіміра, дапусціў яго да першай споведзі і камуніі. Назад дадому – таксама 60 кіламетраў на ровары.

Сям’я слухала па радыё святую імшу на польскай мове. У юнацтве Казімір вывучыў на памяць Літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі. І, калі яго прызвалі ў войска, чытаў яе штодня: калі засцілаў ложак раніцай ці калі клаўся спаць пасля адбою. Кожную нядзелю замест Еўхарыстыі здзяйсняў Святы Ружанец на пальцах. Дарэчы, цяпер біскуп Казімір штодня моліцца ўсе чатыры часткі Ружанца, а таксама Крыжовы шлях.



Пасля войска ён адправіўся працаваць на будоўлю ў Вільнюс. Там жа пазнаёміўся з братамі-дамініканцамі, у далейшым прынёс у ордэне першыя манаскія абяцанні. Тры гады ўлады не давалі Казіміру магчымасці паступіць у Рыжскую семінарыю. Вярнуўшыся ў БССР, ён таемна рыхтаваўся да паступлення. Двойчы ездзіў у Маскву з просьбай дазволіць яму паступіць у семінарыю. У выніку дамогся гэтага дазволу і ў 1981 годзе быў прыняты ў Рыжскую семінарыю адразу на трэці курс.

Біскуп Казімір узгадвае, што першапачаткова ён хацеў паступаць у медыцынскі інстытут, падаў туды дакументы, але працягваў сумнявацца ў пакліканні. Аднойчы падчас пілігрымкі да абраза Маці Божай у Шылуве пачуў заклік паступаць у семінарыю.

Адразу пасля заканчэння семінарыі святар абслугоўваў пяць парафій – гэта значыць, што ў нядзелю трэба было пяць раз служыць святую імшу. Цікава, што гэтыя парафіі былі ў памежных вёсках і мястэчках Брэстчыны, Гродзеншчыны і Міншчыны і за адзін дзень ён бываў адразу ў трох абласцях. Акрамя пастырскага служэння займаўся рэстаўрацыяй і рамонтам святыняў. У цэлым адкрыў або аднавіў працу каля дзесяці парафій.

У 1992 годзе Казіміра Велікасельца прызначылі генеральным вікарыем Пінскай дыяцэзіі, у 1999-м ён атрымаў біскупскую сакру.

ТАМ, ГДЕ ДИКТАТУРА

# 100.000 охранников и бег «в стиле Клинта Иствуда»

## *Как охраняют Ким Чен Ына*

Служба безопасности северокорейского лидера Ким Чен Ына считается одной из самых многочисленных в мире. И подготовленных. Это не удивительно, ведь в родной стране его называют «Новой звездой», «Великим наследником», «Блистательным товарищем» и «Гением среди гениев». Он сейчас «единственный, кто способен вести КНДР к процветанию и светлому будущему», и охрана должна соответствовать такому статусу.

Специальное подразделение (точнее, армия) было создано задолго до рождения Ким Чен Ына: согласно официальным данным, это произошло в 1946 году. Сейчас оно фигурирует под разными названиями: отдел 963, управление сопровождения, командование охраны, верховное командование и так далее. Его руководителями становились особенно приближенные к лидерам Северной Кореи люди, доказавшие свою бесконечную преданность идеалам страны и ее руководителю.



Вначале в службу охраны входило несколько десятков человек, однако с каждым годом, как считали в Северной Корее, появлялись новые угрозы. Это приводило к постоянному увеличению штата сотрудников: вначале – в эпоху Ким Ир Сена, затем – Ким Чен Ира, а теперь – Ким Чен Ына. С каждым годом разрасталась и сфера влияния «охранки», которая в определенный момент начала действовать в «превентивной» манере, борясь с врагами государства до того, как они якобы успевали реализовать задуманное.

Требовалось все больше людей для выполнения поставленных задач, в число которых входила и защита первого лица государства. Поэтому служба безопасности увеличилась до нескольких сотен сотрудников, ближе к 1980-м годам в нее входила пара тысяч человек, затем – десятки тысяч. Этому способствовало свержение ряда дружественных Северной Корее политических режимов в мире, а также попытки ликвидировать лидера нации (вначале Ким Ир Сена, а потом и Ким Чен Ира). В этом веке на фоне новых угроз стабильности Северной Кореи в службе охраны Ким Чен Ына насчитывается, по некоторым данным, до 120 тысяч человек.

Они не расквартированы в одном месте неподалеку от жилища правителя (которое само по себе представляет крепость), а представляют собой подразделения, разбросанные по всей стране. Это необходимо, кроме прочего, для неустанного наблюдения за высокопоставленными чиновниками и военными, чтобы те случайно или намеренно не оступились в своей верности главе государства. Помощь им оказывает и весьма обширная сеть информаторов, сообщающих о неподобающем поведении обычных граждан.

Также, судя по всему, практикуется тотальная прослушка всех каналов связи и передачи данных лиц, занимающих высокие посты в главной (и единственной) партии страны, руководителей регионов и так далее.

В обязанности командования охраны входит и защита столицы – Пхеньяна, есть специальные подразделения для обеспечения безопасности ключевых объектов и резиденции Ким Чен Ына. На вооружении у них находятся танки, ракеты, артиллерия и что угодно еще. Аналогично обстоит дело с тяжеловооруженными отрядами немедленного реагирования.

Очевидно, для обеспечения работы всей этой военной машины требуется огромное количество ресурсов. Но цель оправдывает средства: допустить свержение режима нельзя.

В состав командования охраны входит и не слишком многочисленное, зато «совсем элитное» подразделение, которое непосредственно отвечает за безопасность председателя Государственного совета КНДР. Обычно его сотрудники находятся в тени и могут выйти на свет только при наличии непосредственной угрозы их подопечному. А он, как известно, нечастый гость за рубежом, где можно воочию оценить предпринимаемые меры безопасности.

По разным данным, в личную охрану Ким Чен Ына (и членов его семьи) входит до 20 тысяч человек, «доступ к телу» имеют только самые проверенные и натренированные из них. Организационными вопросами и непосредственной охраной занимается так называемый отдел 6 численностью около 1,2 тысячи человек. Попасть в него можно, отслужив в охране не менее 10 лет, тем самым в очередной раз доказав преданность (это уже в крови, так как за прошедшие 70 лет в Северной Корее было всего три руководителя, и все они – из одной семьи). Они также занимаются логистикой для своего лидера, организуют мероприятия, встречи, инспекции.

Ранее также публиковалась информация о многоуровневой системе обеспечения охраны северокорейского лидера во время публичных мероприятий.

Всего «слоев» семь. В первый входят телохранители из отдела 6: 5–6 человек (лишь они имеют право носить заряженное оружие в присутствии лидера партии). Во второй – 200–300 сотрудников отдела 6 на расстоянии около 100 метров по периметру вокруг верховного главнокомандующего (по некоторым данным, они также вправе находиться с оружием рядом с Ким Чен Ыном). Неизвестное количество сотрудников местного аналога КГБ (департамент государственной безопасности – ДГБ) и контрразведки в километре от него – третий «слой». Четвертый периметр развернут на расстоянии 1,5–2 километров из тех же людей, что и третий. Следующие три периметра формируются по ситуации и состоят: пятый – из сотрудников ДГБ и Министерства народной (или общественной) безопасности (МНБ), шестой – ДГБ, седьмой – снова МНБ.

Количество сотрудников на каждом периметре может изменяться (обычно в сторону увеличения), если того требует ситуация.

В западной прессе отмечают, что подобным образом охраняют и американского президента, но в случае Ким Чен Ына все возведено в степень и по количеству задействованных военных, и по огневой мощи.

Чтобы оказаться одним из телохранителей лидера партии и народа, нужно пройти очередной серьезный отбор (оказаться в командовании охраны тоже непросто). Проводится проверка не только на профпригодность, но и на стремление следовать принятым идеалам, в биографии не должно быть ни единого пятнышка (на лояльность проверяют также членов семьи вглубь на многие поколения).

Кроме того, претендент, которому в будущем позволят сопровождать «Блистательного товарища», должен иметь примерно такой же рост, как у него, – 170 сантиметров (по другим данным, 163 сантиметра). С учетом проблем с питанием в стране найти достаточно высоких людей непросто: средний рост северокорейских мужчин составляет, по данным независимых исследований, 167 сантиметров.

У телохранителя не может быть никаких заметных дефектов внешности, он должен быть пропорционально сложен, а также обязан показывать чрезвычайно высокий уровень физической подготовки, быть докой в стрельбе и единоборствах. После того как он пройдет отбор, наступит время дальнейшего обучения и оттачивания мастерства.

Много времени уделяется физической подготовке (разбивание молотом гранитных плит на груди и головой деревяшек – в порядке вещей), навыкам владения различными техниками. Далее идут моральная подготовка и укрепление боевого духа, для чего среди прочего проводятся тренировки по единоборствам.

Тренировкам с «огнестрелом» уделяют много времени, однако основное оружие телохранителя – умение наблюдать за окружением, выискивая угрозу и нейтрализуя ее заранее, в том числе ценой своей жизни и без применения пистолетов-автоматов. Причем это касается не только «людей извне»: во время правления Ким Чен Ира, например, за каждым сопровождавшим его чиновником следовали по две пары глаз охранников (то есть доверял почивший правитель Северной Кореи только сверхлояльным бойцам). Почему?

Может, потому что значительная часть обучения уходит на промывку мозгов, когда солдатам вбивают в голову основную мысль: глава страны – бог, а единственное предназначение человека – служить дорогому лидеру. Об этом рассказывал один из дезертиров из числа сотрудников командования охраны Ким Чен Ира. Может, с тех пор что-то изменилось, но вряд ли. Разве что видимой охраны стало чуть меньше.

***

Есть также любопытный момент. Оказаться на службе в охране Ким Чен Ына в Северной Корее – это примерно как стать астронавтом в США. То есть молодежь (по крайней мере ее часть) стремится надеть форму в надежде оказаться «на вершине» со всеми сопутствующими благами, а не выживать. Ежегодно весной выпускники средних школ проходят медкомиссии, на которых принимаются решения, достаточно ли у них здоровья, чтобы попасть в армию. Будущих претендентов в 100-тысячную армию охранников Ким Чен Ына также отбирают еще в школе, но процесс начинается на полгода раньше – осенью.



***

В ближнем круге охраны Ким Чен Ына также есть вспомогательный персонал, который выполняет дополнительные задачи вроде взятия проб еды, алкоголя и сигарет (если собственные запасы истощились, например), поиска жучков и развертывания связи на выездах, обеспечения неприкосновенности фекалий из портативного туалета (так, например, было во время визита Ким Чен Ына в Сингапур для встречи с Дональдом Трампом в 2018 году – чтобы спецслужбы ничего не узнали о здоровье «Великого наследника» из анализов).

Что касается туалета, такая практика появилась давно. «У лидера Северной Кореи есть личный туалет, который следует за ним везде», – рассказывал бывший военный из КНДР, служивший в охране Ким Чен Ира.

Кстати, именно во время визита молодого правителя Северной Кореи в Сингапур его охрана, прибывшая на двух самолетах, оказалась в центре внимания – все благодаря удалым молодцам, которые сопровождали бронированный лимузин Ким Чен Ына по улицам города-государства.

Глава отделения Washington Post в Пхеньяне Анна Файфилд написала в книге «Великий преемник: тайное возвышение и правление Ким Чен Ына», что на идею окружить машину телохранителями нынешнего главу Северной Кореи натолкнул фильм «На линии огня» с Клинтом Иствудом в главной роли: якобы, посмотрев в детстве американскую драму, Ким так впечатлился и проникся увиденным, что при появившейся возможности реализовал мечту. Однако не исключено, что это художественный вымысел. Как бы то ни было, позже Ким Чен Ын появлялся на людях «в стиле Иствуда» как минимум еще пару раз.

Очевидно, что Северная Корея принимает чрезвычайные меры для обеспечения безопасности своего лидера. Говорят, возможность оказаться в его охране с каждым годом привлекает молодежь меньше, чем в прошлом.

ТАЛАНТЫ

*Будущее принадлежит тем, кто верит в красоту своей мечты.* Элеонора Рузвельт

# «Загадай желание, пусть оно исполнится...»

*В детстве мы писали письма Деду Морозу и просили его исполнить заветные наши мечты. Став взрослыми, по-прежнему в сказочную новогоднюю ночь бросаем в шампанское горящие записки и под бой курантов стараемся успеть прошептать сокровенные желания. Но теперь-то уже мы понимаем: без наших усилий наши мечты никто не исполнит.*

## Жить мечтой

*Когда Наташе Новинской было три года, мама отвела ее в балетную студию. Мама хотела, чтобы у дочки были хорошая осанка и красивая походка. Никто не ждал от девочки профессионального подхода, но Наташа влюбилась в танец.*

*Сначала Наташа училась в Балетной школе Марины Вежновец. А в этом году поступила в Белорусскую государственную хореографическую гимназию-колледж. Помимо обычных уроков, у нее теперь есть занятия по классическому и историко-бытовому танцу.*

**– Нужны ответственность и дисциплина, чтобы заниматься балетом. Тебе не было страшно, что придется ограничивать себя в чем-то?**

– Нет, я никогда не боялась, что нужно будет садиться на диету или много тренироваться. Пока я не могу сказать, что себя «ограничиваю», – я занимаюсь балетом с огромным удовольствием.

**– А были ли разочарования?**

– Да. Например, в шесть лет у меня был первый конкурс. Я танцевала на пуантах вариацию «Умирающий лебедь» и «Детскую польку». Мне посчастливилось готовиться к конкурсу с замечательной балериной и прекрасным человеком Екатериной Олейник. Тогда я получила диплом 2-й степени и немного расстроилась, ведь я очень старалась… Но это придало мне сил заниматься еще усерднее, чтобы улучшить свой танец. С тех пор я выступала на разных конкурсах, в том числе международных. Сейчас из-за пандемии отменили многие мероприятия, и мне этого очень не хватает.

**– Есть ли балерины, на которых тебе хочется равняться?**

– Мне очень нравится Майя Плисецкая, часто смотрю отрывки из ее выступлений. Из звезд нашего Большого театра восхищают многие ведущие солисты: Марина Вежновец, Екатерина Олейник, Людмила Хитрова, Ольга Гайко, Ирина Еромкина, Александра Чижик. С Александрой Чижик, Людмилой Хитровой и Ольгой Гайко мне посчастливилось немного пообщаться в театре. Но особенно я благодарна Марине Вежновец – это она влюбила меня в балет.

**– В каком балете ты мечтаешь станцевать?**

– «Сотворение мира», «Анюта», «Маленький принц», «Ромео и Джульетта». Конечно, я мечтаю танцевать главные роли.

**– За семь лет занятий балетом ни разу не было мысли оставить его?**

– Был такой случай. С пяти лет я начала заниматься еще и гимнастикой, пришлось много времени уделять ей. Но со временем стало сложно совмещать и то, и другое – нужно было выбирать. Тогда я поняла, что на первом месте у меня все-таки балет. Это моя мечта, и оставлять ее я не хочу.

## Всегда рядом

*Юлия Новинская не ожидала, что дочь будет так серьезно настроена на занятия балетом. Но, увидев, как это важно для Наташи, не могла не поддержать ее на пути к мечте.*

**– Поступление в хореографический колледж – ответственный шаг: это значит, что для вашей дочери балет – совсем не временное увлечение.**

– Уже давно я поняла, что Наташа одержима балетом. Спектакли, конкурсы, выступления… Но я хотела развивать дочку всесторонне: она попробовала музыкальную школу, пение, рисование. И ничего из этого не бросила. После уроков в колледже она идет либо в музыкальную школу, где играет на виолончели, либо в Большой театр, где занимается в Детском музыкальном театре-студии. Там она участвует в спектаклях: иногда поет в оркестровой яме, а иногда – на сцене.

Но танец всегда был и остается у нее на первом месте. Наташа целенаправленно шла к поступлению в хореографический колледж, нам, родителям, она дала понять, что настроена серьезно. Поначалу я была встревожена. Балет – это очень тяжелый труд, большая конкуренция. Но сейчас я рада, что дочка поступила и что у нее такая целеустремленность. Немногие дети в наше время живут с мечтой и добиваются ее. Наташа сама выбрала этот нелегкий путь, и я не стала ей препятствовать. Время покажет, что ее ждет в будущем. Я же стараюсь дать ей как можно больше возможностей для выбора.



**– Доводилось ли Наташе уже сталкиваться с жесткой конкуренцией?**

– Бывало, что она разучивает роль, танцует, а потом ее снимают и ставят кого-то старше, опытнее, сильнее. В таких ситуациях я стараюсь объяснить, что преподавателю виднее, как выстроить работу. Не нужно оставлять мечту из-за этого.

А вообще в коллективе у них обстановка доброжелательная. Многие девочки знакомы между собой еще со школы Марины Вежновец. Они увлечены одним делом, хорошо понимают друг друга и поэтому могут поддержать в сложных ситуациях.

***«Немногие дети в наше время живут мечтой и добиваются ее. Наташа сама выбрала этот нелегкий путь…»***

**– Что самое важное для мамы, когда ребенок занимается таким непростым видом искусства?**

– Наташа абсолютно не проблемный ребенок. Конечно, бывают неудачи и слезы: дали не ту роль, что-то не получилось. Но я всегда говорю, что главное – это поддержка близких, твое крепкое здоровье и искренняя улыбка. Иногда не всё идет так, как хочется. Но у каждого человека есть свой путь, и важно пройти его достойно. Я всегда рядом.

## Отклик родителей

*Заслуженная артистка Беларуси Марина Вежновец прошла долгий творческий путь и не понаслышке знает, каково это – лететь через тернии к звездам. Открыв собственную балетную школу, прима-балерина дала возможность многим детям осуществить их мечты.*

**– О чем нужно знать родителям, когда они отправляют ребенка в балетную школу?**

– Мы относимся к детям как к будущим профессионалам. Важно, чтобы ребенок не просто посещал занятия, но и научился академическому танцу. Это сложное направление, где есть рамки, за которые нельзя выходить. Ученику придется долго и утомительно работать у станка – это тяжело. И здесь большую роль играют родители. Ведь только они могут найти путь к сердцу своего ребенка и объяснить, что без трудностей, к сожалению, не будет красивого танца. Когда мама и папа участвуют в становлении ребенка, это всегда отражается на его результатах.

**– Что то главное, чему учит балет?**

– Красота. Мы несем ее людям. Уверяю вас, балетных детей видно за километр, они очень отличаются от сверстников.

**– Многие дети отказываются от балета в первый же год…**

– Да. Но практика показывает, что одаренные дети, которые нужны школе, остаются. Те, кто не справляется, кому неудобен график, кому не подходит профессиональное направление, обычно идут в студии. Там всё более лояльно.

Ребенка нужно поддержать в его любви к балету. Это посещение театра, просмотры выступлений, обсуждения увиденного. Если ребенок почувствует, что маме все равно, чем он занят, то и стараться не будет. Дети – это всегда отклик родителей, и успех – это общий результат.

**Виталина БАНДАРОВИЧ.**

**Фото Екатерины СУСЛОВОЙ.**

*("Алеся").*

ШАХМАТЫ

## Парадаксальны ход

Задача, якую даслаў наш пастаянны аўтар **Міхаіл Кошаль** з Мінска, мае не зусім звычайны для мініяцюр першы ход *(гл.дыяграму)*.




**Белыя:** Крg7, Фd2, Са5, Сb7 (4).

**Чорныя:** Кре7, пп. d7, е6 (3).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі (***220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а***) або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Толькі на першы погляд…

У эцюдзе грузінскага майстра **Д.Махатадзэ** становішча здаецца нічыйным.

**Белыя:** Кра1, Сf6, пп. а2, h5 (4).

**Чорныя:** Крh6, пп. а3, d7 (3).

**Выйгрыш.**

Рашае 1.Сb2!! Кр:h5 2.С:а3 Крg6 3.Сb4! Крf6 4.а4 Кре6 5.а5 Крd5 6.а6 Крс6 7.Са5.

## З дапамогай інтэрнэту

Сёлетні чэмпіянат свету па хуткіх шахматах сярод юнакоў і дзяўчат праходзіў у анлайн-фармаце. У еўрапейскім кантынентальным адборачным турніры да першынства свету бралі ўдзел 10 юных беларусаў ва ўзросце ад 10 да 18 гадоў. Лепшы вынік паказаў **Дзяніс Лазавік** – першае месца сярод юнакоў да 14 гадоў і выхад у наступны этап (дзе ён дайшоў да паўфіналу, а ў выніку заняў чацвёртае месца). **Ксенія Норман** заняла сёмае месца сярод дзяўчат да 14 гадоў, **Ксенія Зелянцова** – дзявятае ў групе да 16 гадоў. У юнакоў **Вячаслаў Зарубіцкі** – дванаццаты ў групе да 18 гадоў, **Арцём Стрыбук** – пятнаццаты ў групе да 14 гадоў.

## Фінальнае змаганне

У мінулым выпуску мы распавялі пра анлайн-турнір 16 гросмайстраў, у якім чэмпіён свету **Магнус Карлсен** фінішаваў другім, саступіўшы **Уэслі Со**. А вось два паядынкі з фінальнага матча.

***Уэслі Со – Магнус Карлсен***

1.е4 с5 2.Кf3 Кс6 3.d4 cd 4.К:d4 Кf6 5.Кс3 е5 6.Кdb5 d6 7.Кd5 К:d5 8.ed Кb8 9.Фf3 а6 10.Фа3 b6 11.Сg5 Се7 12.С:е7 Кр:е7 13.0-0-0 Сb7 14.Кс3 Кd7 15.f4 Фс7 16.fe К:е5 17.Фb4 h5 18.Се2 Крf8 19.Лhf1 Ле8 20.Лf5 h4 21.Лf4 Фd8 22.Крb1 Лh6 23.Лdd4 h3 24.g3 Сс8 25.а4 Крg8 26.Лde4 Фс7 27.Лh4 а5 28.Фd4 Л:h4 29.Л:h4 Сf5 30.Лh5 Фс8 31.Ф:b6 Кg4 32.Са6 Ле1+ 33.Кра2 Фе8 34.Л:f5 Ке3 35.Сb5 Фе7, 1:0.

***Магнус Карлсен – Уэслі Со***

1.d4 Кf6 2.с4 е6 3.Кf3 d5 4.Кс3 с5 5.cd cd 6.Ф:d4 ed 7.е4 de 8.Ф:d8+ Кр:d8 9.Кg5 Ве6 10.К:е6+ fe 11.Сс4 Кре7 12.0-0 Кbd7 13.Се3 Лс8 14.Сb3 Кс5 15.С:с5+ Л:с5 16.Лfe1 g6 17.К:е4 К:е4 18.Л:е4 е5 19.f4 Сg7 20.Лае1 Лf8 21.fe Лf5 22.е6 С:b2 23.Лd1 Лс7 24.g4 Лf8 25.Крg2 b5 26.Ле2 Сс3 27.Ле3 Сb4 28.Лed3 а5 29.Лd7+ Л:d7 30.Л:d7+ Крf6 31.Лb7 а4 32.g5+ Кр:g5 33.Л:b5+ Лf5 34.Л:b4 ab 35.е7 bа 36.е8Ф а1Ф 37.Фе7+ Крh6 38.Лh4+ Лh5 39.Фf8+ Фg7 40.Фf4+ g5 41.Фd6+ Фg6 42.Фf8+ Фg7 43.Л:h5+, 1:0.

## Гуляюць берасцейцы

І яшчэ адно "вяртанне" да мінулага выпуску. У ім распавядалася пра нядаўні чэмпіянат Брэсцкай вобласці па шахматам. Прапануем яшчэ адну партыю, у якой перамог бронзавы прызёр.

***Ягор Кузміцкі – Уладзіслаў Каташук***

1.d4 Кf6 2.Кf3 с5 3.е3 е6 4.Сd3 b6 5.0-0 Сb7 6.Фе2 Ке4 7.Кbd2 f5 8.Ке5 Фh4 9.Кdf3 Фh5 10.К:d7 К:d7 11.Сb5 0-0-0 12.b4 Сd6 13.bc Кg5 14.cd К:f3+ 15.gf С:f3 16.Фс4+ Кс5 17.Лd1 Фh3 18.d7+ Крb8, 0:1.

## Праверце адказы

Задача **П.Малюшыцкага**, змешчаная ў "Народнай Волі" 11 снежня, рашаецца: **1.С:с5!** Не вядуць да мэты спробы 1.Л:с5? b3! і 1.Фf7? е6!. Першымі правільна рашылі **Васіль Жуковіч**, **Ігар Ананіч**, **Віктар Жук**, **Сяргей Цяльпук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

АПАВЯДАННЕ

Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

# ШАСНАЦЦАТАЯ

Шаснаццатая скрыня, паштовы "апендыкс" пятнаццацікватэрнага пад'езда, пастаянна забівалася смеццем. І тата перажываў. Я тэлефанавала яму, пыталася:

– Як справы?

І ён казаў:

– Дрэнна! У пустой скрыні зноўку пакамечаныя паперкі, пясок, парэзаная гума і нейкія запчасткі ад старога гадзінніка…

– А што ў свеце? Што там па тэлевізары? – я аддалялася ад татавага мікрасусвету.

– Не глядзеў, бо ціск узняўся! – хмурнеў тата. Дакладна хмурнеў – я гэта адчувала.

– Не думай пра дробязі! У Еўропе – чуў? Паводка… У Ірландыі вулкан прачнуўся! А яшчэ малакавоз перавярнуўся… Не памятаю дзе, але перавярнуўся. А тут звычайная паштовая скрыня, добра прымацаваная, спакойна вісіць ды яшчэ багацее на ўсялякі хлам, – супакойвала я.

– Акрамя мяне, ніхто пад'езд не прыбірае, – злаваўся тата.

– Ты таксама не прыбірай! Навошта ў тваім узросце напружвацца?..

– Дык прыбіраць няма каму, – упарціўся ён. – У Ірыны з пятай кватэры дзетак трое, Сямёнавы паўгода як на дачы жывуць, Пятровы…

– Тат, мне таксама няма калі, – я паглядзела на гадзіннік, – давай я табе сабачку куплю, будзеш з ім гуляць…

– А калі памру, куды вы яго? Табе ж няма калі, – уздыхае тата.

Цяпер ужо і я цяжка ўздыхаю.

– А давай мы заўтра прыедзем і адпілуем гэтую скрыню ад секцыі…

– Справа не ў скрыні, – сумным голасам сказаў тата. – Учора мне дзвярное вочка хтосьці заклеіў. Спецыяльна! Помсцяць за парадак.

– Тат, беражы сябе, ну іх усіх! – усхліпнула я.

Татаў дэтэктыў з шаснаццатай скрыняй сядзеў у мяне ў галаве да ранішняй кавы. За пяцьдзясят пяць гадоў столькі жыхароў змянілася ў доме… "Цікава, хто гэты ліхадзей, які рэжа гуму, жуе паперу, збірае іржавыя цвікі і аскепкі шкла? Дарэчы, яшчэ там былі арэхі і пабіты гадзіннік", – разважала я… да першай лыжкі цукру. Потым кава стала салодкай, зазвінеў мабільнік…

Позна ўвечары зразумела, што забылася патэлефанаваць тату. Сэрца трывожна ёкнула. Узгадала паштовую скрыню і тое, як мы на пачатку дзевяностых усім пад'ездам рабілі рамонт. Мужчыны сцены і парэнчы фарбавалі, жанчыны фіранкі на вокны пашылі, былі і кветкі ў самаробных гаршках. Стала шкада тату. Усё лета перажывае з-за гэтай скрыні. Ціхенька паплакала. Напісала яму СМС: "Не спіш?"

У адказ прыляцела карцінка з задаволеным мульцяшным катом і кароткае "Зараз патэлефаную".

Праўдны тэлефон падаў голас.

– Тат, як ты?

– Цяпер я ведаю, хто разводзіць бруд у шаснаццатай!

Па голасе я зразумела, што ён шчаслівы.

– А я адразу казала: трэба ў міліцыю тэлефанаваць!

Тата задаволена засмяяўся:

– Самі басякі прыйшлі, і цяпер я згараю ад сораму!

– ???

– З пяцігадовымі дзецьмі ваяваў, – весела працягваў тата.

– ???

– Учора пазваніў у дзверы Ірчын хлапчук, а побач з ім карапузы стаяць, значна меншыя. Рукі ў бакі, бровы панасуплівалі, сур'ёзныя такія: "Дзядуля, ты навошта наш штабік усё лета разбураеш?" "Які штабік?" – пытаюся. "Шаснаццаты", – кіўнуў на скрыню малы. "Ах, дык гэта вы шкоднічаеце!" – раззлаваўся я. А малы кажа: "Гэта не шкода, а абломкі касмічнага карабля і марсіянскі грунт – мы яго вывучаем ў спецыяльнай лабараторыі", – малеча паказаў кардонку ад абутку.

– Заўтра ў штабік цукерак пакладу, – задаволена сказаў тата. – Будучым навукоўцам неабходна салодкае.

– Лепш вафлі "Чарнаморскія". Хай мараць на наступны год з'ездзіць да мора! – усміхнулася я.

…Засынала спакойна, бо прыдуманыя марсіяне ведаюць толк у караблях і ў тым, куды і калі трэба прызямліцца, каб усе былі шчаслівыя.

*Брэст.*



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).